



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

7 ліпеня 2017 года №27 (1158)


## Паказанні ў судзе: дакументы аб адпраўцы дзяцей на бульбу складалі ПАСЛЯ трагедыі

**Ідзе суд па справе дзяўчынкі, што загінула на бульбе**

старонка 4

## Кім трэба працаваць, каб зарабляць 1000 рублёў



Сярод высокааплатных вакансій – прадавец прадметаў інтэр'ера. Але гэта не значыць, што ўсе прадаўцы гэтага накірунку маюць такі заробак. На здымку прадавец у адным з гандлёвых цэнтраў Маладзечна Людміла.

старонка 3

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

НАВІНЫ

## Галоўным па Міншчыне прызначылі Анатоля Ісачэнку

МІНШЧЫНА

Аляксандр Лукашэнка прызначыў Анатоля Ісачэнку старшынёй Мінскага абласнога выканаўчага камітэта 4 ліпеня.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што Анатоль Ісачэнка ўсю адпаведную працу ведае па вертыкалі і мае неабходны досвед. Прэзідэнт таксама заявіў пра неабходнасць больш інтэнсіўнымі тэмпамі і часцей праводзіць ратацыю кадраў.

**Паводле president.gov.by.**

## Ордэнам Пашаны ўзнагародзілі Міхаіла Казінца

ВІЛЕЙКА

4 ліпеня Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды прадстаўнікам розных сфер.

У тым ліку дырыжору Міхаілу Казінцу, які паходзіць з Вілейшчыны. Міхаіл Казінец – галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра.

**Паводле president.gov.by.**

## Выдзяляць сродкі на кансервацыю вежы Крэўскага замка

СМАРГОНЬ

На фінансаванне творчых праектаў будзе выдзелена 369 834 рублі з фонду Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва.

Грошы будуць накіраваныя на рэстаўрацыйныя работы і капітальны рамонт Барысаглебскай (Каложскай) царквы 12 стагоддзя ў Гродне і кансервацыю Княжацкай вежы Крэўскага замка 14 стагоддзя.

**БелТА.**

## Уручылі прэміі “Чалавек года Гродзеншчыны”

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ

Прэміі атрымалі 18 жыхароў вобласці. Сярод іх прадстаўнікі нашага рэгіёна. Пасведчанні ўручыў 3 ліпеня падчас святкавання Дня Незалежнасці старшыня аблвыканкама **Уладзімір Краўцоў**.

У вытворчай сферы сярод іншых ганаровае званне атрымалі ветэрынарны доктар КСУП “Гудагай” Астравецкага раёна **Анатоль Сільвановіч** і абвальшчык мяса Ашмянскага мясакамбіната **Анатоль Шыдлоўскі**.

**Паводле “Ашмянскай праўды”.**

## У Вілейцы адкрылі скульптуру “Маці з дзецьмі”

ВІЛЕЙКА

На Дзень горада, 2 ліпеня, у вілейскім парку ўрачыста адкрылі скульптуру маці.

Яе аўтар – сталічны скульптар **Аляксандар Шомаў**. Яшчэ адна яго вядомая праца – скульптура першай настаўніцы на ганку педагагічнага ўніверсітэта імя Танка ў Мінску.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хваробы кровазвароту сталі прычынай смерці больш чым у 50% выпадкаў

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне ў 2016 годзе хваробы сістэмы кровазвароту склалі 58,4% ад усіх прычын смерці. Каварнасць гэтых захворванняў у тым, што яны падкрадваюцца незаўважна, у пачатковай стадыі працякаюць бессімптомна.

Для прафілактыкі хвароб сістэмы кровазвароту ў раёне праводзяцца мерапрыемствы ў рамках акцыі “Лічбы здароўя: артэрыяльны ціск”.

**“Светлы шлях”.**

## Адкрылі “Гатэль для насякомых”

МЯДЗЕЛ

У Нацыянальным дзіцячым цэнтры “Зубраня” на экалагічнай пляцоўцы “Бабровая хатка” з’явіўся новы арт-аб’ект – “Гатэль для насякомых”.

Гэта садовы домік для карысных насякомых. Ён выконвае практычныя і дэкаратыўныя функцыі, з’яўляецца месцам жыхарства адных з самых маленькіх насельнікаў жывёльнага свету. У “Гатэлі для насякомых” абсталяваныя асобныя “нумары”.

**“Нарачанская зара”.**

## Школьнікі дапамаглі ЗАГСу здаць дакументы ў Нацархіў

ВАЛОЖЫН

Вучні гімназіі №1 дапамагалі падрыхтаваць прыходскія кнігі цэркваў і касцёлаў. У іх занатаваныя рэгістрацыі актаў дзяржаўнага стану жыхароў Валожынскага раёна.

Амаль тыдзень па некалькі гадзін у дзень юнакі і дзяўчаты нумаравалі старонкі пажаўцелых ад часу рарытэтаў.

**“Працоўная слава”.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Ігнат Міхайлавіч Астроўскі на звалцы на лебедзеўскіх могілках.

# Зрабілі сметнік каля самых магілак

МАЛАДЗЕЧНА

**Для жыхара Лебедзева Ігната Астроўскага гэта асабліва балюча – звалку зрабілі над магілай яго бабулі і бацькі, расстралянага, а пасля рэабілітаванага.**

Ігнат Міхайлавіч толькі справіў 80-годдзе, і бадзёрасці яму не пазычаць. Менавіта ён заклікае навесці парадак на лебедзеўскіх могілках.

Мужчына паказвае каталіцкія могілкі, капліцку, якую памятала яшчэ яго бабуля. Раней у капліцы нябожчыка пакідалі на ноч. Цяпер сюды збіраюцца перад пахаваннем, праводзяць службу.

Вакол капліцкі ляжаць могілкі, а за ёй, на мяжы з полем, над абгародкамі высіцца сметнік. Звалка распаўзаецца пад самыя магілкі. Сюды кідаюць сарваную траву, штучныя кветкі, вянкі. Лебедзевец прыгадвае, што смецце ў гэтае месца сталі скідаць не так даўно – гадоў з пяць. Спачатку ён яго збіраў і паліў, але з часам маса пачала гніць.

Прычым кантэйнер для смецця стаіць адразу пры могілках, толькі ў іншым баку. Прайсці да яго зойме некалькі хвілін.

– Я ж разумею, што гэта самі людзі кідаюць, ніхто ж іншы, – кажа Ігнат Астроўскі. – Але цяпер, каб яго вывезці, неабходная спецтэхніка. Звяртаўся да нашых дэпутатаў, толькі выніку пакуль няма.

Аднойчы лебедзевец размаўляў з аднавяскоўцам пра звалку, той падтрымаў, што кепска, калі смецце. А пасля бачыць – цягне гэты суразмоўца посцілку са смеццем на верх звалкі і скідае там. Ці яшчэ неяк сустрэў жанчыну, якая цягнула цяжкі мяшок са смеццем да гэтай звалкі.

– Падышоў, кажу, ну што ж вы робіце? Няўжо не бачыце, што тут магілкі побач? А яна ў адказ: “Ну і што ж цяпер мне рабіць, раз ужо дацягнула”.

Ігнат Міхайлавіч прыгадвае, што раней кантэйнеры стаялі каля ўвахода на могілкі. Магчыма, на такой немалой плошчы сапраўды ёсць сэнс арганізаваць больш за адно месца з кантэйнерамі для смецця. Напрыклад, паставіць яшчэ і каля ўвахода.

Але галоўнае – падтрымліваць чысціню і своечасова вывозіць смецце. Праязджаючы каля праваслаўных могілак у Лебедзеве, мужчына заўважыў, што там кантэйнеры стаяць каля ўвахода, але смецця ўжо перабор, зваленае яно і каля сметніц.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

### Рыхтуюцца навесці парадак

– Для таго, каб супрацоўнікі УП “Камунальнік” далі на прыборку тэхніку, неабходна падаць заяўку ў спецаўтагаспадарку, – патлумачыла інжынер раённай ЖКГ **Надзея Жаўняровіч**. – Могілкі знаходзяцца на балансе сельвыканкамаў, і яны павінны кантраляваць іх стан. Менавіта па заяўках ад сельвыканкамаў работнікі камунальнай службы займаюцца прыборкай.

Старшыня Лебедзеўскага сельвыканкама **Леанід Семашкевіч** у курсе праблемы:

– Ведаю, што звалка ёсць, але хіба за руку злавіш тых, хто смеціць. Некалькі дзён таму я папрасіў мясцовага ксяндза сабраць суботнік. А тэхнікай я забяспечу.

### У магіле бацькі пустая труна

Каля гэтай звалкі магіла бабулі і бацькі Ігната Міхайлавіча. На помніку бацьку напісана толькі “Загінуў у вайну”. Ні дакладнай даты, ні месца смерці сям’я не ведае.

Ён працаваў у Лебедзеўскай пажарнай камандзе, у 1939 годзе быў рэпрэсаваны як удзельнік арганізацыі “Стральцы” за антысавецкую агітацыю. Пасля загінуў недзе ў засценках. Усю сям’ю Астроўскіх у 1940 годзе саслалі ў Казахстан, калі Ігнату было тры гады. Там яны жылі да 1947 года і не бачылі вайну.

У 1994 годзе Астроўскіх прызналі пацярпелымі ад рэпрэсій. У 2000 рэабілітаваны бацька Ігната Міхайлавіча. Яго парэшткаў у магіле няма, толькі памяць, якую ганьбяць закіданнем смецця.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ТЭМА НУМАРА

# Кім трэба працаваць, каб зарабляць 1 000 рублёў


Фота Usiter.com.

Доктар у санаторыі атрымае найвышэйшы заробак, з прапанаваных у Маладзечне.

МАЛАДЗЕЧНА

**У спісе вакансій па стане на 4 ліпеня ад ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама 471 прапанова.**

Прадстаўнікам некаторых прафесій заробак прапануюць незалежна ад установы-працадаўца. Але ёсць такія, для каго важна не столькі, кім працаваць, колькі дзе. Напрыклад, электразваршчыку на "Маладзечнажалезабетоне" прапануюць заробак у 300 рублёў, а на ЗМК – 600. І нават у адной арганізацыі адна спецыяльнасць можа аплачвацца па-рознаму. Напрыклад, мастак на "Белмастацкераміцы": адна вакансія абяцае 700 рублёў, іншая – 450.

Самая ніжэйшая зарплатная адзнака ў спісе – 265 рублёў. Такую суму прапануюць цэламу шэрагу спецыялістаў – бібліятэкару, акампаніятару, артысту тэатра лялек, кіроўцам, выхавальнікам дашкольнай установы, інжынеру-канструктару, інжынеру-энергетыку, інспектару па кадрах, касіру, канцэртмайстру, кухоннаму рабочаму, метадысту, механіку, апаратару электроннага набору і вёрсткі ў друкарні, педагогу-псіхолагу, памочніку выхавальніка, прадаўцу, рэжысёру-пастаноўшчыку, кіраўніку гуртка, трэнеру, прыбіральшчыку, фельчару-лабаранту, швачцы, электрыку, энергетыку, шэф-повару ў школе.

Крыху больш, 270 рублёў, заробіць медсястра.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Спіс самых высокааплатных вакансій**

Самыя высокія заробкі, прапанаваныя ў спісе, – 600-700 рублёў. Ёсць некалькі пазіцый з заробкам вышэй, а дзе прапановы абяцаць новаму спецыялісту кругленькую тысячу.

**600 рублёў прапануюць на наступных вакансіях:**
Юрысконсульт таварыства па дрэваапрацоўцы ў Чысці
Электразваршчык на ЗМК
Фрэзероўшчык на ЗМК
Слесар-рамонтнік у швейнай фірме
Начальнік аддзела ў аўтапарку №4
Начальнік ЗАТ "Амкадор Унікаб"
Машыніст лесанарыхтоўчай машыны ў таварыстве па дрэваапрацоўцы
Машыніст рухомага змяшальніка асфальтабетону
Галоўны бухгалтар на прадпрыемстве "Будаўнік-197"

**699 рублёў**
Галоўны ветэрынарны доктар прадпрыемства па вытворчасці мясной прадукцыі

**700 рублёў**
Тынкоўшчык "Будаўніка-197"
Мастак у "Белдзяржкераміцы" ў Радашкавічах
Спецыяліст таварыства па продажы тавараў для інтэр'ера
Прараб "Спецбудмеханізацыі"

**750 рублёў**
Доктар-спецыяліст у пажарным аварыйна-выратавальным атрадзе

**807 рублёў**
Правізар у аптэцы №198

**1 000 рублёў**
Прадавец таварыства па продажы тавараў для інтэр'ера
Доктар-спецыяліст санаторыя для інвалідаў з парушэннямі апорна-рухальнага апарату.

## Па беспрацоўі ў рэгіёне лідзіруе Маладзечна

**По афіцыйнай статыстыцы на канец мая, у сумных лідарах у рэгіёне па беспрацоўі – Маладзечанскі раён. Тут узровень зарэгістраванага беспрацоўя склаў 1,9% – зарэгістраваны 1 094 беспрацоўныя.**




У астатніх раёнах узровень беспрацоўя нашмат ніжэйшы. У Вілейскім раёне – 0,8% (152 чалавекі). У Смаргонскім, Ашмянскім і Мядзельскім раёнах – па 0,7%.

Найніжэйшы ўзровень беспрацоўя ў рэгіёне – у Астравецкім і Валожынскім раёнах: усяго 0,4%. Там адпаведна зарэгістравана беспрацоўных – 47 і 51.

За год колькасць беспрацоўных па афіцыйнай статыстыцы зменшылася амаль ва ўсіх раёнах. Выключэнне – толькі Астравецкі раён, дзе яна склала амаль 112% да леташняга мая. Найбольшае зніжэнне шукальнікаў працы зафіксаванае ў Вілейскім раёне – там колькасць беспрацоўных склала амаль 40 працэнтаў да ўзроўню мая 2016 года. У Маладзечанскім гэты паказчык перавышае 80%.

**Аддзел інфармацыі паводле галоўных статыстычных ўпраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей. Інфаграфіка "РГ".**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.06 | 6.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9343 | **1,9557** |
| Еўра | 2,1987 | **2,2213** |
| Злоты, 10 | 5,1895 | **5,2121** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2485 | **3,2813** |
| Грыўня, 100 | 7,4168 | **7,4945** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 28.06 | 5.07 |
| Еўра | 2.1500 /2.2100 | **2.2000/2.2250** |
| Долар ЗША | 1.9240/1.9450 | **1.9400/1.9600** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.06 | 5.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,30** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 0,90 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,70** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,70 | **1,30** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,80 | **1,35** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | **1,60** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,50 | **4,10** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,00** |
| Мандарыны, 1 кг | - | **4,90** |
| Дыня, 1 кг | - | **3,50** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,45 | **1,85** |
| Памідоры, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 6,20 | **3,80** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **1,00** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,10** |
| Клубніцы, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Чарэшні, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 6,50 | **5,00** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,60 | **6,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,20 | **3,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,40 | **2,60** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **1,95** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,90 | **4,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,50 | **1,30** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

# Дакументы аб адпраўцы дзяцей на бульбу складалі пасля трагедыі

## Ідзе суд па справе дзяўчынкі, што загінула на ўборцы бульбы

МАЛАДЗЕЧНА

**4 ліпеня пачаўся суд над настаўніцамі сярэдняй школы №11 за смерць 13-гадовай васьмікласніцы Вікторыі Папчэні, якая загінула падчас уборкі бульбы пад Маладзечнам.**

32-гадовую настаўніцу французскай мовы **Вольгу Завадскую** і 44-гадовую настаўніцу фізікі **Ірыну Апанасевіч** абвінавачваюць у тым, што яны несумленна выконвалі абавязкі, не нагадалі дзецям, як паводзіць сябе на полі. Не здзейснілі належны кантроль, пакінулі дзяўчынку на полі без нагляду. Настаўніцы цалкам прызналі сваю віну. Пацярпелыя не маюць іскавых прэтэнзій да іх.

### Не ведалі, што едуць на бульбу ў рамках акцыі

Настаўніцы адзначылі на судзе, што не ведалі, што едуць на бульбу ў рамках акцыі "Дапаможам сабраць ураджай", ім толькі пасля патлумачылі гэта.

**Застаецца пытанне, ці была акцыя ўвогуле ў школьным плане?**

**Дзяніс Курэц**, які ў час трагедыі выконваў абавязкі намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце ў школе №11, адзначыў, што ён складаў план выхаваўчай работы, аднак не памятае дакладна, ці была ў ім акцыя, сведчыць, што план мог мяняцца ў пачатку верасня.

Дырэктар школы №11 **Аляксандр Люлькові**ч патлумачыў, што план школы на новы навучальны год зацвярджаецца 30 жніўня, ён можа мяняцца, змены настаўнікам павінны даводзіцца па меры неабходнасці. На момант трагедыі дырэктар быў у адпачынку, нічога не ведаў пра тое, як адпраўлялі на бульбу. Да яго адпачынку пра адпраўку нічога не гаварылі. Тады на каго быў ускладзены абавязак за правядзенне акцыі? Хто павінны быў данесці інфармацыю да настаўнікаў пра акцыю?

Аддзел адукацыі, спорту і турызму даведаўся пра тое, што трэба дапамагчы сабраць бульбу толькі ў верасні на пасяджэнні райвыканкама, пасля гэтага рассылалі лісты ў школу.

– Меркавалі, што будуць пераважна дарослыя, але планавалі і дзяцей дзясятых класаў, калі не набярэцца патрэбная колькасць дарослых, – патлумачыла начальніца аддзела адукацыі, спорту і турызму **Іна Драпеза.**

### Дакументы складалі пасля трагедыі

Сведка начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Томашаў** пасля здарэння ўстанаўліваў, ці былі працоўныя адносіны, вывучаў дакументацыю ў школе. Нагадаем, што сям'я школьніцы і ў абласным судзе не даказала, што дзяўчынка працавала на полі.

– Праз гадзіну пасля трагедыі я папрасіў загад у школе, – расказвае спецыяліст. – Мне далі два аркушы, на якіх былі подпісы Апанасевіч і Завадскай. Але, калі я гутарыў з імі, настаўніцы сказалі, што гэта не іх подпісы.




Журналісты "Рэгіянальнай газеты" пастараліся графічна паказаць, як маглі накіроўваць дзяцей на бульбу (звесткі з залы суда).

**Дык чаму ж падчас расследавання не аддалі гэтыя дакументы на графалагічную экспертызу, каб спецыялісты ўстанавілі, ці належаць подпісы настаўнікам, імёны якіх стаяць на паперы?**

Інфармацыю пра тое, што дакументы складаліся пасля трагедыі, пацвердзіла і **Галіна Пішчык**, якая на момант трагедыі займала пасаду намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце школы №11. Калі абвінаваўца запытаўся ў яе: "Ніякіх дакументаў не складалася перад тым, як адправіць дзяцей на бульбу?" Настаўніца патлумачыла, што яны складаліся ўжо пасля.

### Ніхто не бачыў моманту наезду на дзяўчынку

Ні адзін са сведак, а таксама настаўніцы не бачылі моманту наезду, не чулі, каб грузавы самазвал падаваў гукавыя сігналы.

Ніхто з тых, хто адпраўляў васьмікласнікаў на ўборку бульбы, не праверыў, ці споўнілася дзецям 14 гадоў. Спісы тых, хто паедзе на бульбу, складалі па жаданні дзяцей, аднак пісьмовага дазволу ад бацькоў не атрымоўвалі. Інструктаж з дзецьмі і настаўнікамі напярэдадні адпраўкі на бульбу не праводзілі.

Як адзначае класны кіраўнік дзяўчынкі, якая загінула на бульбе, **Наталля Шаціла**, яна па ўласнай ініцыятыве пагутарыла з дзецьмі, як паводзіць сябе на полі, а не па распараджэнні.

Як адзначыў настаўнік фізкультуры Палачанскай школы **Аляксей Шлойда**, пасля трагедыі працу па ўборцы бульбы працягнулі.

**Наступнае пасяджэнне па справе дзяўчынкі, што загінула на полі, прызначанае на 6 ліпеня. Будзем сачыць за развіццём падзей. А пакуль застаецца больш пытанняў, чым адказаў.**

**Галіна СУДНІКОВІЧ, Аксана ЯРАШОНАК.**

### У Вілейцы сутыкнуліся "Опель" і матацыкл

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 3 ліпеня каля 19 гадзін. У Вілейцы 30-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Опель-Вектра" і здзяйсняў манеўр левага павароту. А матацыкл "Кавасакі-Версус" абганяў машыну, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці. Адбылося сутыкненне.

Кіраваў матацыклам 26-гадовы мужчына. У выніку яго шпіталізавалі з закрытым пераломам правага перадплечча са зрушэннем.

**Аддзел інфармацыі.**

### Інвалід першай групы ў Ільі разбіў акно сваёй суседцы

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 28 чэрвеня на Вілейшчыне.

Як паведаміў начальнік Вілейскага следчага камітэта **Яўген Мягкоў**, пакуль матывы мужчыны невядомыя.

47-гадовы жыхар Ільі быў у двары дома і з хуліганскіх пабуджэнняў кінуў кавалкам асфальту.

Ён разбіў шкло ў акне дома 29-гадовай суседкі, якая цяпер у адпачынку па доглядзе за дзіцем.

Следчы ўдакладніў, што мужчына быў цвярозы, а таксама што раней за ім хуліганскіх дзеянняў не заўважалі.

### 20-гадовы віляйчанін угнаў машыну і трапіў на ёй у аварыю

Маладзён трапіў у незамкнёны аўтамабіль "Форд-Фокус", прыпаркаваны ў двары прыватнага дома ў Насілаве Маладзечанскага раёна 13 чэрвеня.

Машына належыць 30-гадоваму мясцоваму жыхару.

Угоншчык знайшоў ключ і завёў рухавік. Паехаў без мэты крадзяжу, але не справіўся з кіраваннем на аўтадарозе Маладзечна – Смаргонь, з'ехаў на абочыну ў Мароськах і перакуліўся.

Машыну знайшлі з пашкоджаннямі. Міліцыянеры ўстанавілі, што падазраваны ў злачынстве 20-гадовы непрацуючы жыхар вёскі Баранцы Вілейскага раёна, які арыштаваны за іншае злачынства.

**УУС Мінаблвыканкама.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# Чаму немца Герхарда Крамера пазнаюць на валожынскіх вуліцах

ВАЛОЖЫН

**Герхард Крамер ужо 25 год прыязджае ў Валожын. Ён няспешна крочыць па валожынскіх вуліцах, адзначае, што гарадок папрыгажэў.**

Ды і таксі з Мінска да Валожына ўжо не трэба чакаць шэсць гадзін, як гэта было чвэрць стагоддзя таму.

Некаторыя валожынцы пазнаюць спадара Герхарда і вітаюцца з ім. Адкуль у невялікім беларускім горадзе ведаюць жыхара федэратыўнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія?

### Бачыў Беларусь праз дзірачку ў акне

Хутка даведацца пра гэта не атрымалася. Хоць лёс і падарыў магчымасць жыць з Герхардам Крамерам у адным валожынскім гатэлі, дачакацца героя было цяжка.

– О, у яго столькі спраў заўжды, калі ён да нас прыязджае, – патлумачыла дзяўчына на рэцэпцыі ў гатэлі. – Ён сёння можа быць вельмі позна. Вам усё роўна тэлефанаваць?

І мне пашанцавала. Герхард Крамер прыйшоў у гатэль а дзясятай вечара і быў гатовы размаўляць.

– 25 год таму група беларускіх дзяцей адпачывала ў Германіі, – пачынае свой расповед спадар Крамер. – А потым мы з сябрамі захацелі паглядзець, як жывуць тыя дзеці, убачыць іх радзіму.

Зімой 1992 года, калі ў Беларусі было больш за 20 градусаў марозу, Герхард Крамер знаёміўся з Беларуссю. Ён ехаў на таксі з Мінска ў Валожын і праз размарожаную дзірачку ў акне глядзеў на нашу радзіму.

Спачатку Герхард і яго аднадумцы жылі ў валожынскіх сем'ях. Калі ў горадзе з'явілася добрая гасцініца, пачалі спыняцца тут. Плаціць за яе нядорага, лічыць Герхард, а ніякай нязручнасці людзям не ствараеш.

### А першай была першая школа

Дапамога Валожыну пачалася з сярэдняй школы №1. Да святаў, а часам і проста так сям'я Крамераў рыхтавала падарункі для вучняў. Цацкі і ласункі ехалі з Германіі ў Беларусь на вялікіх грузавіках. Апошні раз вага гуманітарнай дапамогі для валожынцаў склала 14 тон.

Да сённяшняга дня, па словах майго суразмоўцы, ён падтрымлівае кантакты з тымі самымі першымі вучнямі школы, якім дапамагаў. Ведае, хто з іх куды пераехаў, хто стварыў сем'і. За 25 год каля 500 дзяцей з Валожыншчыны адпачылі і паправілі здароўе ў Германіі.

А 19 год таму Крамер спрыяў удачарэнню хворай валожынскай дзяўчынкі ў нямецкую сям'ю. Па словах Герхарда, у яе былі праблемы з ныркамі.

На сённяшні дзень дзяўчыну вылечылі. Яна жыве і вучыцца ў Германіі. Будзе спецыялістам па дрэваапрацоўцы. Ад прапановы Герхарда з'ездзіць на радзіму ў Валожын дзяўчына пакуль адмаўляецца.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Герхард Крамер у валожынскай гасцініцы.

Цацкі, спартыўныя прылады, камп'ютары, новае тэхнічнае абсталяванне з'явіліся ў валожынскіх школах і садках дзякуючы Крамеру. Часам Герхард са сваімі сябрамі нават самастойна рабіў рамонты ў школах. А мясцовы цэнтр дзіцячага развіцця "Расінка" валожынцы ўвогуле называюць "садком Герхарда Крамера".

### Буду дапамагаць, пакуль змагу

Касцёл Святога Юзафа, што знаходзіцца на цэнтральнай плошчы ў Валожыне, таксама дапамог адрамантаваць мой субяседнік. Дзякуючы яму знайшліся матэрыялы для рамонту. Крамер – каталік. І на радзіме належыць да каталіцкага таварыства Святога Юзафа.

На пытанне, чаму Крамер дапамагае дзецям Валожына, адказ просты: ён мае магчымасць і жаданне.

> **Дзяржава і бацькі не заўсёды могуць цалкам забяспечыць патрэбы дзіцяці, перакананы Крамер.**

Па яго словах, такая сітуацыя не толькі ў Беларусі, а ў Германіі таксама.

У Валожын Герхард Крамер прыязджаў штогод. Выключэннем стаў толькі 2016. Тады мой субяседнік даведаўся, што сур'ёзна хворы. Аднак сёлета гэта не перашкодзіла яму прыехаць зноў.

– Калі валожынскія сябры даведаліся пра маю хваробу, яны шмат пісалі на электронную пошту, маральна падтрымлівалі мяне, – дзеліцца Крамер.

### Бацька распавядаў пра Беларусь і беларускіх "матак"

На сённяшні дзень мой субяседнік – пенсіянер. Усё жыццё адпрацаваў майстрам па рамонце тэле- і радыёапаратуры. Мае сям'ю: жонку, дзяцей, унука і ўнучку.

У часы Другой сусветнай вайны бацька Герхарда Крамера быў у Беларусі. Расказваў сыну пра прывакзальную плошчу ў Мінску. Тут ён пракладаў чыгунку. У Беларусі пазбавіўся адной нагі.

– Бацька часта ўспамінаў, – прыгадвае Герхард, – што, каб не беларускія "маткі", наўрад ці змог бы ён вярнуцца дадому жывым.

За дабрачынную дзейнасць Крамер мае высокія ўзнагароды ад беларускага і нямецкага ўрадаў. А на маё пытанне пра палітычную сітуацыю ў Беларусі адказаў:

– Ведаеце, я дапамагаў і колькі змагу буду дапамагаць валожынскім дзецям, а палітыка мяне мала цікавіць.

### Загадчыца валожынскага цэнтра развіцця дзіцяці: Крамер – наш сапраўдны сябар

Загадчыца валожынскага дзіцячага цэнтра развіцця дзіцяці **Наталля Казак** упэўненая, што "садком Крамера" іх установу называюць нездарма.

Герхард Крамер – наш сапраўдны сябар, кажа жанчына. Цэнтру ён дапамагае ад 2005 года. Дзякуючы яму ў групах шмат цікавых развіццёвых цацак і гульняў, у спартыўнай зале вялікія і маленькія футбольныя вароты, мячы, фітболы, скакалкі, бадбінтоны, турыстычная палатка.

Выхаванцы цэнтра займаюцца ткацтвам. На маленькіх ткацкіх станках яны вучацца рабіць габелены. Неабходныя для гэтай справы ніткі таксама прывозіць Герхард Крамер.

Новы халадзільнік і выцяжка ў харчблоку, кухонныя прылады, посуд, сушыльная машына ў пральні – вось яшчэ падарункі нямецкага сябра.

У час прыезду Крамер заходзіць у групы, вітаецца з дзецьмі, назірае, як яны гуляюць з нямецкімі падарункамі, фатаграфуе. Робіць гэта, каб паказаць сваім сябрам у Германіі, колькі задавальнення маленькім валожынцам прыносяць нямецкія падарункі.

– Калі мы даведаліся пра хваробу Крамера, – кажа Наталля, – ужо і не думалі, што ён прыедзе. Таму сваім сёлетнім візітам наш сябар абрадаваў усіх нас.

Наталля працуе ў цэнтры нядаўна. А супрацоўнікі, якія знаёмыя з Крамерам ад 2005 года, нават нямецкую мову вывучылі дзякуючы зносінам з ім.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ГАЗ-2410, 1989 г.в., у добрым стане. Т. МТС (8-029) 5752803.

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Пежо-5008, 2013 г.в., з Германіі. Т. (8-029) 6372633.*

• Рэно-19, 1,7 бензін, машына ў добрым стане альбо мяняю на Пежо 306 з маёй даплатай. Т. МТС (8-029) 5039360, (8-01771) 34305 Віктаравіч.*

• Сеат-Альхамбра, 1999 г.в., 1,9 ТДІ. Валожын. Т. Вэлком (8-044) 7700247.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• Запчасткі да БМВ 525, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Мазды 626, 2,0Д, 1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Форда-Эскорт, 1994 г.в. Т. (8-029) 7792477.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэкапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*

• 2-павярховы жылы катэдж у цэнтры Вілейкі, усе камунікацыі. Т. (8-029) 6251817. Мікалай.*

• 3-пакаёвая кватэра ў 6-м мікрараёне г. Маладзечна, 3 паверх 5-павярховага дома, 66,8/41,8/9,2. Гатовая для пражывання. Т. (8-029) 6571293.*

• 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв. м. Т. (8-029) 6795426.*

• 3-пакаёвая кватэра, 4 паверх, без рамонту, у Вілейцы, вул. Талстога, 51. Тэрмінова! Т. (8-033) 6170104.*

• 5-пакаёвы сучасны катэдж з лазняй 2011 г. у Мядзеле, 168 000 руб. Т. (8-029) 6414245. Валянцін.*

• Гараж у ГК №1. Т. (8-029) 2505060, (8-029) 6262756.*

• Гараж у Смаргоні, з/сетка. Т. (8-01592) 26531, (8-029) 7875173.

• Дача, 49 км ад Маладзечна, в. Заазер'е, 91,5 км ад вёскі Талуцproperly) на беразе возера, побач лес, рэчка. Цудоўнае месца для адпачынку або адкрыцця аграсядзібы. Гатоўнасць 80%. Т. (8-029) 6631960.

• Паўдома з цагляным хлевам і гаражом. Альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7702746.

• Дом драўляны (патрабуецца рамонт), 2 км ад Вілейкі, в.Клыні. Недалёка вадасховішча. Ёсць калодзеж. 25 сотак. 5 000 рублёў, торг. Т. МТС (8-029) 5642606.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом у а.г. Лебедзева, 36 кв. м, участак 0,25 га, прыватызаваны. Т. (8-029) 8737656.*

• Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.

• Дом у в. Запур'е Валожынскага раёна, нядорага. Т. (8-044) 4562653.

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом ў в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні . Т. (8-029) 8724272.

• Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у вёсцы Кардон Вілейскага раёна, калодзеж, участак 14 сотак, лес, рэчка побач.Т. (8-029) 2928728.

• Дом цагляны з усімі камунікацыямі ў Мядзеле, вул. Вяршылы, у 500 метрах ад возера. Т. (8-029) 2760904.*

• Зямельны ўчастак 0,25 га ў п.Свір. Возера ў 50 м, праз дарогу. На ўчастку электрычнасць, фундамент, магчымасць падключэння да газу. Гатовы праект. Без пасрэднікаў. Т. (8-044) 7571949.*

• Паўдома ў Маладзечне, уцеплены фасад, шклопакеты, ацэпленне пячное, газаправод побач. Т. (8-029) 2617499, (8-029) 9285822.

• Участак з домам у в. Насілава, 25 сотак. Т. МТС (8-029) 8143388.*

### ЗДАМ

• Пакой у 3-пакаёвай кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*

### ІНШАЕ

• Лазня 6х4. Т. (8-029) 9453139.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.

Т. (8-029) **651 20 36**.

# Каханне з першага погляду пары, якую распісалі да Дня горада

МАЛАДЗЕЧНА

**Пабраліся шлюбам Дзмітры Шуляк і Святлана Кузьмінская. Цяпер пара мае прозвішча Шуляк.**



Фота Галіны СУДНІКОВІЧ.

Дзмітры Шуляга і Святлана Кузьмінская падчас вяселля, якое адбылося 1 ліпеня.

Рэгістрацыя праводзілася па-беларуску.

Акрамя традыцыйных абрадаў: праход праз ручнік, павязванне хроснымі рук маладых, абмен пярсцёнкамі, першы танец маладых, жаніха і нявесты чакаў сюрпрыз – дзясятак паветраных шарыкаў у форме сэрцайкаў, звязаных адной стужкай. Маладым трэба было загадаць жаданне і выпусціць іх.

Сведкам стварэння новай сям'і мог стаць любы чалавек, які знаходзіўся ў парку каля ратонды.

**Маладыя хлопцы з запрошаных гасцей жартавалі над маладым падчас абмену пярсцёнкамі: "Дзіма, ці добра ты падумаў, можа не трэба?"**

Але малады быў больш чым упэўнены.

Пазнаёміўся маладзечанец з будучай жонкай гамяльчанкай Святланай шэсць гадоў таму ў Гомелі на адным са святаў. Дзмітры ў гэты час вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту.

– Я ўжо накіроўваўся дадому, – узгадвае маладзён. – Перада мной ішлі дзве дзяўчыны, і тут адна з іх выпадкова пагледзела назад, нашы вочы сустрэліся. Убачыў яе карыя вочы – і ўжо не мог адвесці погляд. Як заварожаны працягваў ісці за дзяўчатамі, якія рухаліся на аўтобусны прыпынак. Я напачатку хацеў ісці дадому пешшу, аднак перадумаў.

### Не рашыўся б падысці, калі б яна не ўсміхнулася

Некаторы час малады чалавек проста глядзеў на дзяўчыну і не рашаўся падысці, можа, і не рашыўся, калі б яна не ўсміхнулася. Пасля гэтага асмеліўся: "Прабачце, а мы з вамі не знаёмыя?" Завязалася размова і дзяўчына дала свой нумар тэлефона.

На наступны дзень маладыя людзі сустрэліся, а ўжо праз дзень Дзмітры зрабіў прапанову сустракацца.

### Праверылі пачуцці арміяй

Жыццё падарыла пары не толькі шчасце кахання, аднак і магчымасць праверыць свае пачуцці расстаннем і адлегласцю – Дзмітры на год пайшоў у армію.

– Быў упэўнены – Света дачакаецца, – расказвае маладзечанец. – А ў далейшым я зраблю ўсё магчымае, каб яна была шчаслівая, была за мной, як за каменнай сцяной.

### Хацеў зрабіць прапанову, як вернецца з арміі

Малады чалавек хацеў зрабіць прапанову ў першы ж дзень, як вярнуўся з арміі, аднак цяжка было з грашыма, таму вырашыў адкласці справу, пакуль не стане на ногі.

Гэта падзея адбылася сёлета 1 красавіка.

– 31 сакавіка Дзіма пайшоў на дзяжурства, – усхвалявана расказвае Святлана. – Раніцай я ўжо прачнулася, аднак ляжала яшчэ ў ложку. Дзіма падышоў да мяне і даў велікаватую каробку, на якой было напісана "Ты любіш мяне?" Адкрываю, а ўнутры яшчэ тры, аднак меншага памеру, на іх адказы "так", "не", "не ведаю".

– Света ў гэты момант ужо пачала плакаць і казаць, што ведае, што ў адной з іх, – працягвае Дзмітры. – Аднак параіў адкрываць далей. Далей была яшчэ адна каробка з надпісам "Ты хочаш быць са мной?" Унутры дзве каробкі са словамі "так" і "не". Каробачка са словам "так" была зусім маленькая, таму Света была ўпэўненая, што там пярсцёнак.

– Адкрываю яе: рукі трасуцца, слёзы на вачах, – смяецца Святлана. – Нарэшце атрымоўваецца, а там – канцылярская заціскачка. Доўга смяялася.

Дзмітры на гэта і разлічваў – гэта ж 1 красавіка. А пакуль каханая смяялася, дастаў з кішэні каробачку з пярсцёнкам і зрабіў прапанову.

### Не чакала, што вяселле будзе сёлета

– Я была ўпэўненая, што пажэнімся з Дзмітрыем, аднак не чакала, што гэта будзе сёлета, – расказвае нявеста. – Меркавала, што ў наступным годзе.

Адразу ж маладыя паведамілі пра радасную падзею бацькам. Маці Дзмітрыя павіншавала сына і ўсмешліва сказала: "Ну, нарэшце, ачалавечышся!" Маці Святланы пачала плакаць – усё-такі дачку з роднага дома адпускае.

Маладыя доўга выбіралі дату вяселля, меркавалі распісацца 7 кастрычніка, аднак падумалі – прыйдзецца доўга чакаць, з надвор'ем можа не пашанцаваць. Вырашылі, што лепш 1 ліпеня.

– Дата крыху звязаная з астралогіяй, – тлумачаць маладыя. – Калі скласці дату вяселля з годам, то атрымліваецца лічба 18. Гэта лічыцца спрыяльным часам, тым больш 18 чэрвеня нарадзіўся Дзмітры. А калі 18 раздзяліць на два, то атрымліваецца 9 і 9 – гэта чысло кахання. Распісваюць нас у 13:00. 13 чэрвеня ў Светы дзень нараджэння. І па астралогіі гэта спрыяльны час.

Па знаку задыяка пара – блізняты. Многія гараскопы ўпэўніваюць, што яны несумяшчальныя, могуць спрачацца з-за дробязяў і кожны будзе перацягваць коўдру на свой бок. У Святланы і Дзмітрыя не так, яны разумеюць адзін аднаго з паловы слова, а ў прыкметы і гараскопы даўно не вераць. Яны нават вясельную сукенку і вэлюм выбіралі разам.

### Вясельную сукенку выбіралі разам

– Галоўнае, каб будучы муж не бачыў цалкам вобраз, – тлумачыць Света. – А Дзіма бачыў толькі мяне ў сукенцы, але не бачыў, як яна глядзіцца з вэлюмам, туфлямі. Таму ўсё будзе добра, не трэба зацыклівацца на забабонах – усё атрымаецца.

Як прызнаюцца маладыя, яны доўга не маглі паверыць, што ім прапануюць выязную рэгістрацыю шлюбу.

– Мы хацелі зрабіць выязную рэгістрацыю, але гэта патрабавала значных фінансавых укладанняў, – тлумачыць Дзмітры. – Вырашылі, што ў ЗАГСе не менш урачыста, а можа нават і больш хвалююча. У адзін з дзён Свеце патэлефанавалі з ЗАГСа і прапанавалі выязную рэгістрацыю ў ратондзе. Яна адразу пагадзілася, але перажывала, што маёй згоды на гэта не будзе. Я чалавек вельмі скрупулёзны і, прыйшоўшы ў ЗАГС, доўга распытваўся, у чым падвох, колькі даплаціць трэба. Не мог паверыць у такі шыкоўны падарунак ад горада ў наш дзень.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Старэйшы кінамеханік:
# “Кіно ў Даўгінаве з мяне пачалося і на мне скончылася”

ВІЛЕЙКА

**Кінаперасоўкі. Слова, якое сучаснаму пакаленню незразумелае і чужое. Але так атрымалася, што я з дзяцінства ведаю, што гэта такое і як гэта працавала.**

Таму што кіно паказвалі ў хаце маёй бабулі. Сваякі расказвалі, што кіно паказвалі ў нашай хаце, таму што кіншчыкам быў мясцовы хлопец, а клуба ў вёсцы тады не было.

Ён проста прапанаваў маім бабулі з дзядулем, яны і пагадзіліся.

За арэнду памяшкання тады, вядома, ніхто не плаціў. Платай было тое, што ўся сям’я, у якой было шасцёра дзяцей, маглі глядзець кіно бясплатна.

### Фільм “Авадзень”. Не, пра насякомых мы глядзець не будзем

А суседскія дзеці таксама маглі зарабіць бясплатнае наведванне кіно. Як? Пераматаць бабіну з фільмам.

– Бабіна была вялізная, быццам кола ў ровары, – расказваюць мне сваякі, – круціць трэба было рукамі. Работы на паўгадзіны.

Кіно звычайна пачыналася ў сем вечара і заканчвалася ў дзевяць.

Пасля гэтага ў хаце пачынаўся клуб кінаманаў.

Абмяркоўвалі фільмы, падзеі ў іх.

У кіно тады ішоў “Джульбарс” з Юрыем Нікуліным, легендарны “Чалавек-амфібія”, фільм па раману Войніч “Авадзень”.

Калі вяскоўцы прачыталі на афішы “Авадзень”, усе адказалі амаль аднолькава: “Не, пра насякомых мы глядзець не хочам”.

Перад фільмамі нязменна паказвалі часопісы, бо ў адсутнасці тэлевізараў у вёсцы толькі з кіначасопісаў можна было даведацца, як выконваецца пяцігодка на розных прадпрыемствах, як асвойваецца цаліна і будуецца ГЭС.

### Раптам кіно загарэлася...

Таму гісторыі, якія мне давялося пачуць ад старэйшага кінамеханіка краіны **Пятра Пташніка**, якому сёлета споўніўся 91 год, у нечым мне былі знаёмыя.

Але пра тое, як кінамеханік спаліў трафейнае кіно, як маляваў афішы і як прыйшоў у прафесію, я паслухала з задавальненнем.

Пасля вайны Пётр Пташнік аказаўся ў Даўгінаве. Кіно, расказвае ён, вабіла даўно. Яшчэ на фронце з задавальненнем глядзеў кіначасопісы.

А пасля вайны пайшоў працаваць спачатку памочнікам кінамеханіка, а пасля ўжо кінамеханікам.

Вазіў кіно па вёсках больш за 20 гадоў. І пасля, калі ў Даўгінаве ўжо пачаў працаваць клуб, застаўся ў ім круціць кіно. Калі клуб у 2014 годзе закрылі на рамонт, Петр Пташнік пайшоў на пенсію. Працоўны стаж у Пятра Сцяпанавіча, уявіце сабе, 68 гадоў!

А пачыналася яго кар’ера кінамеханіка з трафейных фільмаў: “Тарзан”, “Чыа-чыасан”, “Кветка ў пыле”.

Людзей, расказвае кінамеханік, у хаты, клубы, а ўлетку проста на сене, збіралася шмат, кіно любілі ўсе.

> – Білет ў 50-х гадах каштаваў 5 рублёў, але часта пускалі і так. Ведалі ж, што грошай у вёсках не было.

Асабліва любіла хадзіць у кіно моладзь. Часы, калі парачка займала месцы на галёрцы, не мяняюцца.

– А як жа, хлопец з дзяўчынай у вёсцы жылі. Куды тут пойдзеш, усё навідавоку. А тут кіно, цёмна. Садзіся сабе на задні рад, і ніхто цябе не бачыць.

Здараліся ў кар’еры кінамеханіка і такія выпадкі, калі вёска магла застацца без клуба, а сам кінамеханік і без працы, і без матацыкла.

Аднойчы паказвалі кіно ў адной з вёсак:

– У мяне з сабой была толькі адна праекцыйная лямпа, якая асвятляла плёнку. Падчас фільма раптам нешта бабахнула. Лопнула лямпа. Я і кажу тым, хто ў кіно быў: “Паважаныя гледачы, прабачце, кіно не будзе!”

Канешне, народ стаў абурацца, старшыня калгаса злы, бо абяцалі фільм, а яго няма.

– Давялося паабяцаць, што прынясу назаўтра лямпу і кіно пакажу. Толькі тады людзі супакоіліся.



Працоўны стаж старэйшага кінамеханіка краіны Пятра Пташніка – 68 гадоў.



Фота Пятра Сцяпанавіча, зробленае для раённай газеты ў 1971 годзе.




Усе афішы Пётр Сцяпанавіч беражна захоўвае па гадах.

А аднойчы кіно загарэлася прама па дарозе да свайго гледача.

Міністэрства культуры выдала Пятру Сцяпанавічу матацыкл “Іж”, каб той вазіў кіно на матацыкле.

> І вось едзе Пётр Сцяпанавіч, плёнка трэцца каля кола. І раптам чуе кіроўца лёгкае ш-ш-ш-ш ззаду. Павярнуўся, глядзь, а з меха з фільмам ідзе дым.

– Я тут жа з матацыкла саскочыў, схапіў мяшок, адкінуў яго – гарыць! Гэта ў нядзелю было, у вясковым клубе танцы, але ўсе ўбачылі і збегліся на пажар. Пытаюцца ў мяне, што гарыць, а я кажу, што гэта конюхі вогнішча склалі, а сам не прызнаюся, што гэта кіно.

На наступны дзень Пётр Сцяпанавіч усё думаў, як начальству прызнацца, што кіно спаліў, страшна, бо па галаве, дакладна, не пагладзяць за гэта.

Але камісія разабралася, і тое кіно проста спісалі.

Пятру Пташніку зусім не трэба ўспамінаць, што за фільмы паказваў ён, бо на гарышчы ў сваім доме захоўвае ўсе афішы, пачынаючы ад 50-х гадоў.

– Канешне, маляваў сам. Я і цяпер бы, прызнаецца старэйшы “кіншчык” Беларусі, кіно круціў.

А яшчэ Пётр Сцяпанавіч Пташнік ведае шмат вершаў, песень і пікантных анекдотаў, якімі ён дзяліўся падчас нашай сустрэчы.

> А вось тэлевізар для яго – вораг №1.

Пра тое, як у вёсцы з’явіўся першы тэлевізар, я таксама чула ад сваіх сваякоў. Як збіралася ўся вёска каля гэтай скрыні, падоўгу чакалі, пакуль награецца.

Тэлевізар берaглі, праз кожную гадзіну выключалі, каб даць яму астыць.

Усе дзеўкі і хлопцы, што першыя прыбягалі ў кіно, цяпер абмяркоўвалі, якога колеру сукенкі ў фігурыстак і артыстаў, бо глядзелі чэмпіянат па фігурным катанні і “Блакітныя агеньчыкі” па чорна-белым тэлевізары.

А пра кіно, пра кінаперасоўкі ўсё забыліся.

Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Фота аўтара.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

## У Вілейцы зладзілі рыцарскі фэст "Гонару продкаў"

ВІЛЕЙКА

– Пакуль Міхась рамантуе калена, паламаліся ногі ў Эльфа, – гэта не фраза з фантастычнага апавядання.

Гэта ўсяго толькі каментар суддзі да аднаго з рыцарскіх турніраў, якія адбываліся 1 і 2 ліпеня ў Вілейцы ў Ніжнім парку.

За два дні ўдзельнікі маглі пабачыць рыцарскія баі, паглядзець выступленні тэатральных і музычных гуртоў, фаершоу, выставы і майстаркласы.

Па словах навукоўцаў, рыцарскія турніры – адно з галоўных спартыўных захапленняў еўрапейскай шляхты ў сярэднявеччы. Кажуць, у гэтых спаборніцтвах нашы продкі былі не апошнімі і маглі нядрэнна папрасаваць сапернікаў.

І некаторыя нашчадкі таксама не адстаюць. У гэтым можна было пераканацца, назіраючы за выступленнямі сяброў рыцарскіх клубаў Беларусі і Расіі.

На працягу двух дзён на бераг Віліі ў Ніжнім парку час нібы адматалі на стагоддзяў пяцьшэсць назад. Тут звінелі даспехі і гучалі баявыя клічы."Мурրр!" – ваяўніча крычаў адзін. "Курлык-курлык!" – з імпэтам адказваў другі, кідаючыся на рысталішча.

Каб паказаць свае рыцарскія баявыя здольнасці, у сапернікаў была адна хвіліна. Суддзя лічыў колькасць нанесеных удараў. За змену зброі і падзенне балы здымалі.

А побач шпацыравалі дамы ў сярэднявечных строях, рамеснікі развярнулі кірмаш. У каларытных старажытных уборах былі нават гандляры, што прапаноўвалі ўдзельнікам свае тавары.

Арганізатары паклапаціліся пра тое, каб на тэрыторыі фэсту былі толькі рамеснікі. Таму набыць цацку з кітайскай пластмасы тут было нерэальна. Затое тканыя вырабы, аўтарскія ўпрыгажэнні, амаль сапраўдная рыцарская зброя і даспехі, каваныя рэчы, гліняны і бондарскі посуд ішлі на "ўра".

Прапаноўвалі сярэднявечныя алкагольныя напоі – эль і збіцень. А закусіць можна было даволі сучаснай бульбай фры і сасіскамі ў цесце. Пра такія стравы наўрад ці чулі што-небудзь рыцары ў сярэднявеччы.

Працавала пляцоўка з шатландскімі ваярамі. Па іх словах, тымі самымі, што ў 16-17 стагоддзях жылі на землях Беларусі ў Рэчы Паспалітай. "Шатландцы" былі са звыклымі для нас імёнамі Аляксандр, Максім і Руслан, але ў нацыянальных строях са спадніцамі ў клетку.

Яны прапанавалі паказальныя турніры, пад апладысменты "вызвалілі" прыўкрасную "паланянку", расказалі пра сваю зброю і нават далі яе патрымаць.

Паміж шатландскімі баямі на старажытных беларускіх інструментах іграў маладзечанскі музыка **Сяргей Ярук** і танцавала старадаўнія танцы **Ірына Новік** з Вілейкі.

На этнаграфічнай пляцоўцы для дзятвы артысты батлейкі паказалі спектакль пра Цмока. Тут жа ладзілі семінары і майстар-класы па выцінанцы, нумізматыцы, рэгіянальных строях беларусаў.

Каго мала цікавіла выразанне з паперы і ткацтва, той мог пастраляць з лука і падзівіцца на выставу зброі і даспехаў ад ранняга сярэднявечча да 17 стагоддзя. Тут усё дазвалялі мацаць рукамі і нават прымяраць.

А адзін наведнік, узяўшы з выставы лук са стралою, звяртаў на сябе ўвагу ўдзельнікаў крыкамі "Я – Амур".

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Падчас фэсту "Гонару продкаў".



Кастусь Харашэвіч у сваёй майстэрні, якая не ацяплялася, у 2010 годзе. Мастак пайшоў з жыцця ў 86 год у 2013 годзе. Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Мару пра галерэю імя Харашэвіча ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**6 ліпеня 2017 года споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Іванавіча Харашэвіча – мастака, чалавека, які ўсё жыццё прысвяціў роднай зямлі, беларускай гісторыі, культуры.**

Сімвалічна, што Канстанцін Іванавіч нарадзіўся практычна ў адзін дзень з самым вядомым нашым земляком – Янкам Купалам, юбілей якога шырока адзначаецца ў гэтым годзе.

І хоць розніца ў часе паміж іх нараджэннем складае 45 гадоў, творчы шлях Кастуся Іванавіча шмат у чым перасякаецца з купалаўскімі месцамі на Маладзечаншчыне: родная вёска Літва знаходзіцца побач з Яхімоўшчынай, дзе пачынаў працаваць малады паэт. Кастусь Іванавіч неаднаразова адлюстроўваў на палатне куткі беларускай зямлі, звязаныя з Янкам Купалам, напісаў яго партрэт, а многія працы мастака цяпер знаходзяцца ў філіяле музея Янкі Купалы ў вёсцы Яхімоўшчына.

Жывапісныя работы Канстанціна Іванавіча – непаўторны, самабытны пласт беларускай культуры, які яшчэ не ацанілі сучаснікі. Першага погляду на яго працы недастаткова, каб зразумець, якая энергетыка зыходзіць ад яго палотнаў. У іх закладзеныя глыбінныя вытокі беларускай самасвядомасці, народнай культуры, сіла роднай зямлі, прыцягненне малой радзімы. Мастак апісвае свае думы і перажыванні фарбамі на палатне, і кожнае дакрананне пэндзля – адлюстраванне эмоцый і ўнутранай энергіі, што перадаваліся працы аўтарам.

Таму ніякая копія і тым больш рэпрадукцыя не можа перадаць глыбіню і энергетыку аўтарскага твора. Калі не глядзець, а чытаць працы Канстанціна Іванавіча, то на першы погляд самы просты вясковы пейзаж можа многае расказаць пра цяжкі гістарычны шлях, па якім давялося прайсці беларускаму народу.

Так атрымалася, што ў плыні апошніх двух гадоў жыцця Кастуся Іванавіча маё месца работы знаходзілася побач з яго майстэрняй. Я часта бываў у яго. Мастак распавядаў гісторыю людзей, партрэты якіх ён пісаў, дзяліўся ўспамінамі пра свой жыццёвы шлях.

Мяне ўражвала творчая самааддача, мэтанакіраванасць майстра, калі немалады і з цяжкімі хранічнымі захворваннямі чалавек амаль кожны дзень прыходзіў у халоднае памяшканне, якое не ацяплялася, і па некалькі гадзін працаваў над сваімі карцінамі.

Ён казаў, што жывапіс – неад'емная частка яго жыцця і без яго ён не можа існаваць. Канстанцін Іванавіч распавядаў, што калісьці Маладзечна было горадам творчых людзей – тут было столькі членаў Саюза мастакоў, што можна было ствараць сваё аддзяленне, у горадзе літаральна "кіпела" культурнае жыццё.

Але калі пісьменнік піша "ў стол", а мастак можа выстаўляць свае працы толькі ў майстэрні, надыходзіць перыяд, які можна апісаць толькі шэрымі фарбамі.

> **"Жывапіс – гэта паэзія, якую бачаць, а паэзія – гэта жывапіс, які чуюць". Леанарда да Вінчы.**

Летась, калі я быў у адным з невялікіх гарадоў Балгарыі, колькасць жыхароў якога складае прыкладна 70 тысяч чалавек, нас запрасілі наведаць мясцовую мастацкую галерэю. З вялікай цікавасцю мы адправіліся туды, чакаючы нейкі правінцыйны музей з невялікай экспазіцыяй.

Якое ж было наша здзіўленне, калі нам паказалі 12 выдатна аформленых залаў, запоўненых пышнымі маляўнічымі і скульптурнымі працамі мясцовых аўтараў! Пры гэтым аўтарамі з'яўляліся як прафесійныя, так і непрафесійныя мастакі. І ў цэлым уся экспазіцыя галерэі давала поўнае ўражанне пра жыццё дадзенага рэгіёна, пачынаючы з гістарычных часоў і заканчваючы сучаснасцю. Акрамя таго, у галерэі ёсць зала, дзе займаюцца дзеці з агульнаадукацыйных і спецыялізаваных школ, далучаючыся да прыгожага і адначасова спрабуючы выказаць эмоцыі і ўражанні ў сваіх працах.

Магчыма, народныя абраннікі – дэпутаты Маладзечанскага раённага Савета – успомняць калі-небудзь пра лозунг "Мастацтва належыць народу" і прымуць рашэнне аб стварэнні ў Маладзечне мастацкай галерэі імя Кастуся Харашэвіча, дзе былі б прадстаўлены работы мастакоў Маладзечаншчыны, а аснову экспазіцыі можа скласці творчая спадчына нашага земляка.

20 гадоў таму ў Вілейцы была адкрытая выставачная зала імя Нікадзіма Сілівановіча – таленавітага мастака, які нарадзіўся на вілейскай зямлі. Сёння гэта выставачная зала, дзе рэгулярна праводзяцца розныя выставы і мерапрыемствы, стала адным з культурных цэнтраў Вілейкі. Хочацца спадзявацца, што і ў Маладзечне імя нашага земляка застанецца не толькі на яго жывапісных палотнах.

**Сяргей САВІЦКІ, мастак, Маладзечна.**

# Даследчыкі ламалі галаву над планам маёнтка ў Рускім Сяле

## 87-гадовы віляйчанін па памяці аднавіў яго план

ВІЛЕЙКА

**Якім быў маёнтак Рускае Сяло ў 1930-я гады? Хоць пасля таго часу прайшло ўсяго каля 80 гадоў, але якім ён быў у плане вілейскія краязнаўцы да гэтага часу не змаглі даведацца.**



Карта забяспечаная Сымонам БАРЫСАМ.

План маёнтка зрабіў Альбін Аксіновіч, дапрацавалі яго Сымон Барыс і мастак Уладзімір Малахаў.

І ў кнігах **Сымона Барыса** і **Анатоля Рогача** "Нарачанка і яе берагі", "Нарачанскі край: ад Спяглянкі да Вяллі" плана панскай сялібы ў Рускім Сяле не было. Спрабавалі высвятліць размяшчэнне будынкаў у гэтым маёнтку жыхары Нарочы **Міхаіл Кучко** і **Анатоль Бяганскі**. Але і іх пошукі аказаліся марнымі.

### Віляйчанін намаляваў план панскага маёнтка

Сымон Барыс падчас тэлефоннай гутаркі з аднакласніцай **Ядзяй Нікольскай (Аксіновіч)** даведаўся, што яе старэйшы брат **Альбін Аксіновіч** нарадзіўся ў Рускаселлі ў 1930 годзе. Ён мог добра запомніць панскую сялібу.

Цяпер мужчына жыве ў Эстоніі, у невялічкім прыморскім гарадку. Там быў мараком, там і застаўся. Ядзя просьбу аднакласніка перадала брату, і прыкладна праз месяц з Эстоніі ў Вілейку прыйшло пісьмо з нарысаваным планам панскага маёнтка ў Рускім Сяле.

Аказалася, што Альбін не толькі добра памятае маёнтак, але і размяшчэнне пакояў у панскім палацы, дзе яму даводзілася быць. Гэты план Сымон Барыс і мастак **Уладзімір Малахаў** нарысавалі. Зразумела, што асноўную работу зрабілі Альбін Аксіновіч і мастак Уладзімір Малахаў.

### Чаму памяншаліся межы Рускага Сяла?

Маёнтак з назвай Рускае Сяло знаходзіўся на захадзе ад вёскі Рускаселле, каля дарогі, што ішла адгэтуль на Родзевічы. Некалі гэта было вялікае зямельнае ўладанне, але ў выніку падзелу паміж спадчыннікамі і пасля адмены прыгоннага права паступова памяншалася, бо зямля час ад часу прадавалася. Але ў 1938-1939 гадах гаспадыня маёнтка Межаеўская мела каля 100 гектараў зямлі: ворыва, сенажаць і пашу.

Сенажаць Вобшаўка была забалочаная і знаходзілася за вёскай на паўночны ўсход ад яе. Фактычна лесу не было, калі не лічыць невялікі альшэўнік Гай і бярэзнік Паліна. На гэтай зямлі гаспадары займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, прымянялі вольнанаёмную працу вясковых сялян. На полі вырошчвалі збожжавыя: жыта, ячмень, авёс, пшаніцу, грэчку і кармавыя: канюшыну, віку, бульбу, былі агароды.

Быў вялікі стары сад, навокал абсаджаны ліпамі, дарога таксама была абсаджаная гэтымі дрэвамі з правага боку і каштанамі з левага, што бліжэй да палаца, каля брамы расла лістоўніца. Пад вокнамі палаца з усходняга боку квітнелі бэз і чаромха. Стары сад вымерз у пачатку 1940 года. Але былі і малады, які рос за свірнам.

### Чаму забаранялі трымаць свіней?

З жывёл трымалі толькі шмат кароў і коней. Свіней і свойскіх птушак тут не было і нават забаранялі трымаць іх акалёнцам, бо трэба былі лішнія памяшканні і быў лішні бруд у маёнтку. Асноўны прыбытак атрымлівалі ад продажу збожжавых і малочнай прадукцыі. Іншы раз гадавалі маладых коней для кавалерыі і прадавалі іх у польскае войска. Гаспадаркай кіраваў наёмны аканом, які жыў у флігелі. Непадалёку ад стайні, каля самай дарогі, стаяла кузня.

На схіле пагорка стаяў панскі драўляны аднапавярховы дом, які называлі палац. Каля яго быў дзядзінец – так называлі плошчу паміж стайняй і свірнам. На дзядзінец можна было заехаць праз арачную браму, якая была каля самай дарогі. У пярэдняй паўночнай частцы палаца, у падвальных памяшканнях, былі вытворчыя памяшканні і кухня. З левага боку ад уваходу была малачарня і сыраварня з печкай. У малачарні стаяў вялікі сепаратар, які приводзілі ў дзеянне дзве жанчыны, яны круцілі ручкі.

У сыраварні была пліта-печка, каб грэць малако і ваду. У правым баку, амаль насупраць стайні, была кухня. Дах палаца быў чатырохсхільны, пакаты (невысокі), накрыты гонтай. Над ім некалькі труб-комінаў. Абагравалі палац пячным ацяпленнем, палілі дровамі.

Каля дарогі, што ішла з Рускаселля на Папоўцы, была вялікая сажалка, меншая знаходзілася каля кузні. Блізка ад сажалкі ў садзе каля дарогі стаяла драўляная каталіцкая капліца. Хата акалёнцаў на два канцы была насупраць брамы, на другі бок дарогі. Фактычна дарога з вёсак Дразды і Касічы на Родзевічы праходзіла праз маёнтак. Непадалёку ад хлява, дзе стаялі каровы, на краі сада быў цагляны склеп.



Карта забяспечаная Сымонам БАРЫСАМ.

У палацы была гасціная і злева невялікі пакойчык для служанкі, а далей, налева, – сталоўка. Астатнюю плошчу палаца займалі некалькі пакояў сям'і гаспадароў.

### Муж пані пераплюнуў яе ў два разы па вазе

Альбін Браніслававіч Аксіновіч, які нарадзіўся ў вёсцы Рускаселле ў 1930 годзе, запомніў, што пані Ядвіга Мержаеўская жыла тут адна і была тоўстай кабетай вагой каля 80 кілаграмаў. Яе муж, якога яна пазней да сябе ўзяла як прымаку, быў за яе яшчэ таўсцейшы, амаль у два разы.

Менавіта яго ў 1942 годзе і забілі партызаны на ганку гэтага палаца і спалілі маёнтак. У кнізе "Нарачанскі край" сказана, што гэта зрабілі беларускія камсамольцы, якіх сюды на Вілейшчыну закінулі з-за лініі фронту.

Адгэтуль узнікае пытанне: каго ж забілі партызаны? Ці мужа Станіславы Міхала Мержаеўскага, ці некага іншага? Ядвіга і Станіслава – гэта адна асоба ці нехта з радні Станіславы? Ці ў кнізе памылкова напісаў Сымон Барыс, ці недакладна ўспамінае і блытае былы марак Альбін Аксіновіч?

**Сымон БАРЫС.**

● КАЛЯНДАР

7 ЛІПЕНЯ

**130 гадоў** з дня нараджэння (1887 – 1985) **Марка Шагала**, беларускага і французскага мастака, аднаго з самых вядомых прадстаўнікоў мастацкага авангарду 20 стагоддзя.

Нарадзіўся ў Віцебску (у той час тэрыторыя Расійскай імперыі). Пачатковую адукацыю атрымаў традыцыйную яўрэйскую – па Торы, Талмуду, з вывучэннем старажытнаяўрэйскай мовы. Восенню 1900 паступіў у гарадское чатырохкласнае вучылішча з ремесным ухілам, дзе дасягнуў поспехаў толькі ў маляванні і геаметрыі.

У сям'і Шагалаў маляванне ў адпаведнасці з догмамі іўдаізму лічылася грэшным заняткам. Тым не менш, маці пагадзілася з жаданнем сына і сама прывяла яго ў школу-майстэрню Іегуды Пэна, дзе ён правучыўся два месяцы.

У 1907 Марк Шагал накіраваўся працягваць мастацкую адукацыю ў Санкт-Пецярбург. У 1910 годзе паехаў у Парыж, дзе галоўнай яго акадэміяй сталі Луўр з палотнамі старых мастакоў, мастацкія салоны і лаўкі Парыжа, у якіх можна было ўбачыць палотны імпрэсіяністаў, постімпрэсіяністаў і авангарда 1900-х гадоў...

Таксама ён добра вядомы як скульптар, керамік, майстар мазаік і габеленаў, але больш за ўсё як майстар вітража. Свае вітражныя работы ён ствараў не толькі для французскіх сабораў, але і для храмаў Рэймса, Цюрыха, Майнца, будынкаў ААН у Нью-Ёрку, сінагогі Медыцынскага цэнтра ў Іерусаліме, гатычнага сабора ў Мецы. Яшчэ займаўся сцэнаграфіяй, пісаў вершы на ідышы.

**40 гадоў** з часу заснавання музея старажытна-беларускай культуры інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі.

**135 гадоў** назад (1882) у фальварку Вязынка, цяпер Маладзечанскі раён, нарадзіўся **Янка Купала**, народны паэт Беларусі.

**1864 год.** У Маладзечне адчынілася настаўніцкая семінарыя.

10 ЛІПЕНЯ

**75 гадоў** з дня нараджэння (1942) **Пятра Клімука**, лётчыка-касманаўта СССР, двойчы Героя Савецкага Саюза.

**45 гадоў** назад (1972) адкрыты Купалаўскі мемарыяльны запаведнік на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы Маладзечанскага раёна.

11 ЛІПЕНЯ

**85 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Анікейчыка** (1932 – 1989), скульптара, народнага мастака Беларусі.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Пяць класаў на сем гарадоў:

## дзе ў рэгіёне можна вучыцца па-беларуску



Фота Іны БРЫЛЬ

Дзіма, Антон, Ксеня і Юля Брылі хацелі б вучыцца па-беларуску. Аднак у Маладзечне такой магчымасці няма.

### Заяву на беларускамоўнае навучанне пісалі чатыры разы

**Іна** і **Валеры Брылі** з Маладзечна выхоўваюць чацвёра дзяцей. Усе – школьнікі. Вучацца ў маладзечанскай школе №1 імя Янкі Купалы.

– Калі наша дачка **Ксенія** ішла ў першы клас, муж аднёс заяву на беларускамоўнае навучанне ў аддзел адукацыі ў Маладзечне, – распавядае Іна. – Нам прыйшоў адказ, што ў першай школе беларускамоўны клас не адкрыюць. Прапанавалі пайсці ў сельскую школу ў Выверы. Тады ж з такой заявай у першую школу звярнулася яшчэ адна сям'я.

Па словах жанчыны, калі ішлі ў першы клас малодшыя дзеці, для кожнага яны з мужам пісалі такую заяву. Праўда, ужо не ў аддзел адукацыі, а ў школу.

Жаданне бацькоў ні разу не задаволілі. Казалі, што няма патрэбных падручнікаў, навучальных праграм.

Сёння ўсе дзеці Іны і Валерыя вучацца ў першай школе па-руску. Па словах мамы, вельмі добра праяўляюць сябе на ўроках беларускай мовы і літаратуры, паспяхова ўдзельнічаюць у алімпіядах і прадметных конкурсах.

– Настаўнікі-філолагі кажуць, што беларускую мову ў сваіх класах добра ведаюць толькі Брылі, – кажа Іна. – Мне, як маме, прыемна гэта чуць. Але я разумею, што калі ў Беларусі беларускую мову ведае адзін вучань у класе, гэта зусім дрэнна.

Мы звярнуліся ў праваабарончы цэнтр "Вясна" з пытаннем, ці парушылі правы, дадзеныя Канстытуцыяй, адмаўляючы ў навучанні па-беларуску.

– Калі сям'і сапраўды прапаноўвалі навучанне па-беларуску ў іншай школе, няхай сабе і ў сельскай, то іх правы не парушылі, – адказаў супрацоўнік цэнтра **Сяргей Сыс**.

І ўсё ж у сям'і Брылёў застаецца пытанне: чаму іх дзеці не могуць навучацца па-беларуску ў горадзе, дзе яны жывуць?

**Актывісты ў Маладзечне пачалі збіраць подпісы за тое, каб у школах горада адкрылі беларускамоўныя класы.**

Як ставяцца маладзечанцы да такой ініцыятывы? Што кажуць у школах бацькам, калі адмаўляюць у беларускамоўным класе? І якія справы з беларускамоўным навучаннем у рэгіёне?

Адказы на такія пытанні мы пастараліся знайсці.

### Раман Ганчароў: многія няправільна разумеюць паняцце "беларускамоўны клас"

Зборам подпісаў у Маладзечне займаецца актывіст "Беларускай хрысціянскай дэмакратыі" **Раман Ганчароў**.

– Маладзечанцы, да якіх мы прыходзім збіраць подпісы, становяча ставяцца да нашай ініцыятывы, – кажа Раман Ганчароў. – Так, няхай подпісы ставіць палова з іх. Аднак нейкіх абраз або непаразуменняў пакуль не было. Напрыклад, могуць сказаць, што ўрокі беларускай мовы і літаратуры і так ёсць у раскладзе, а больш не трэба.

Па словах Рамана, калі людзі па нейкіх прычынах не хочуць падпісацца, то яны робяць гэта тактоўна. Разам з тым свае подпісы гатовыя ставіць нават госці з Расіі.

Актывіст заўважыў, што часам людзі няправільна разумеюць само паняцце "беларускамоўны клас".

– Многія думаюць, што ў іх не будзе выбару: сёння падпісаліся, а заўтра ўжо толькі беларускамоўныя класы ва ўсіх школах горада. Але гэта не так, – кажа Раман.

Напрыклад, адна жанчына не падпісалася таму, бо лічыла, што яе сыну будзе цяжка вучыцца па-беларуску.

Па словах жа актывістаў, гаворка вядзецца пра тое, каб у маладзечанцаў было права выбару мовы для навучання дзіцяці ў школе.

Сёння, калі бацькі прыходзяць пісаць заяву ў школу, у бланку пазначаная толькі руская мова для навучання. І бацькі пішуць і падпісваюць такія заявы, бо выбару няма.

Актывісты ўжо назбіралі каля 200 подпісаў. А гэта, між іншым, сем-восем класаў.

Па словах Рамана, хочуць сабраць 500 подпісаў. І збіраць будуць да таго часу, пакуль клас з беларускай мовай навучання не адкрыюць. Хлопцы ўжо пабывалі ў Шостым, Дзявятым і Адзінаццатым раёнах горада. Тут жыве шмат маладых сямей, патлумачыў Раман.

Актывісты гатовыя звяртацца ў Міністэрства адукацыі, у аддзел адукацыі спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, да дырэктараў школ.

Раман спасылаўся на артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Тут пазначана, што дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца беларуская і руская.

А ў адпаведнасці з артыкулам 50 Канстытуцыі дзяржава гарантуе выбар мовы выхавання і навучання.

Згодна з артыкулам 90 Кодэкса "Аб адукацыі", дзяржава павінна ствараць умовы для рэалізацыі гэтага права, у тым ліку забяспечваць развіццё класаў, груп, патокаў з беларускай і рускай мовамі навучання і выхавання.

– Аднак на практыцы гэта канстытуцыйнае права грамадзян Беларусі груба парушаецца. Гэта відавочна па вельмі малой колькасці беларускамоўных груп у дзіцячых садках і школах. У 2009 годзе ЮНЕСКА унесла беларускую мову ў спіс моў, якім пагражае знікненне", – расказаў Раман Ганчароў.

У Маладзечанскім аддзеле адукацыі спорту і турызму пацвердзілі, што на сённяшні дзень у горадзе няма ніводнага беларускамоўнага класа. Аднак калі сюды звернуцца з ініцыятывай, пытанне гатовыя разгледзець.

### Выпускніца беларускамоўнай школы: вучу аднагрупнікаў роднай мове

**Дар'я Савіна,** выпускніца ільянскай школы, зараз вучыцца ў маладзечаскім політэхнічным каледжы.

Па словах дзяўчыны, цяжкасці ў навучанні пасля школы былі толькі ў самы першы час. Адразу не магла прывыкнуць да рускіх тэрмінаў у той жа матэматыцы, фізіцы, хіміі. Бо ў Ільі ўсе прадметы выкладалі па-беларуску.

– Але я вельмі хутка ўсё зразумела, – кажа Даша. – І цяпер добра паспяваю па ўсіх прадметах. З беларускай мовай і літаратурай увогуле ўсё цудоўна. А яшчэ тлумачу сваім аднагрупнікам беларускія словы, якія яны не разумеюць.

### Толькі Ашмяны і Астравец

Мы звярнуліся ў аддзелы адукацыі, спорту і турызму райвыканкамаў і даведаліся, што ў сямі гарадах рэгіёна беларускамоўных класаў на сённяшні дзень пяць: чатыры – у Ашмянах і адзін – у Астраўцы.

У 2014/2015 навучальным годзе два апошнія беларускамоўныя класы выпусцілі ў Смаргоні. Няма такіх класаў і ў гарадскіх школах Маладзечна, Вілейкі, Валожына і Мядзела. Традыцыйна па-беларуску вучацца дзеці ў большасці сельскіх школ рэгіёна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ДУМКА ЭКСПЕРТА

### Тамара Мацкевіч: вельмі дрэнна, што ў бацькоў няма выбару

Намесніца старшыні Таварыства беларускай школы **Тамара Мацкевіч** ведае пра ініцыятыву актывістаў у Маладзечне.

Маладзечна – інтэлігентны, беларускацэнтрычны горад, лічыць яна. Тут ёсць і бацькі, якія жадаюць навучаць дзяцей па-беларуску, і настаўнікі, якія могуць гэта зрабіць.

І ўсё ж жанчына не прыгадала выпадку, каб дзякуючы вялікай колькасці подпісаў, у бліжэйшы час дзе-небудзь адчынілі беларускамоўны клас.

– А вось адмоўныя прыклады ёсць, – кажа Тамара. – У Глыбокім зачынілі беларускамоўную школу №3, хоць і бацькі, і настаўнікі былі супраць гэтага.

Канешне, гэта не падстава здавацца. Трэба спасылацца на Канстытуцыю, на Закон аб адукацыі. Аднак у Беларусі няма добрай заканадаўчай базы, каб адстойваць права навучацца на роднай мове. І юрыдычна тут цяжка нешта параіць.

Вынік ініцыятывы актывістаў у Маладзечне, на думку Тамары, спрагназаваць цяжка.

– Але тое, што ў бацькоў нават няма выбару мовы навучання, гэта парушэнне правоў, – пераканаunion жанчына.









Падчас фестывалю танцавалі, кідаліся фарбамі, спаборнічалі, малявалі. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# У Вілейцы зладзілі другі фестываль моладзевых субкультур

ВІЛЕЙКА

**– Толькі карэспандэнты чыстыя, астатнія – як чэрці, – заўважыў калега, якога я сустрэла на фестывалі фарбаў у Вілейцы.**

Хаця крыху хапіла і карэспандэнтам.

Фарбаў у Вілейцы 30 чэрвеня было шмат – на асфальце, тварах, руках і адзенні. Фестываль сухі-мі фарбамі і гучнымі танцавальнымі рытмамі ўладарыў у гарадскім парку ад гадзіны дня і да вечара.

"Рэквізіт" – парашок розных колераў – можна было набыць адразу ў парку. А калі некаму такога шчасця не хапіла, абсыпаліся... мукой. Прычым абсыпалі нават тых, хто зусім не жадаў быць абсыпаным.

Побач, не звяртаючы ўвагі на ўсеагульную весялосць, юныя мастакі пад кіраўніцтвам **Эдуарда Мацюшонка** малявалі на тэму "Моладзь – за экалогію". Пад такім слоганам праходзіў сёлетні моладзевы фестываль. Праўда, крыху "ў разрэз" з экалагічнай тэматыкай былі пустыя пакецікі ад фарбаў холі на сцяжынках парку.

На сцэне публіку "запальвалі" вілейскія танцоры – калектывы "Фарсаж", "Карагод" і навучэнцы вілейскага каледжа. Хлопцы з каледжа паказалі і цыркавыя здольнасці: ля скейт-пляцоўкі жангліравалі будучыя трактарысты, выхаванцы цыркавой студыі **Алег Рабчык** і **Дзяніс Шкуцёнак**.

Працавалі гандлёвыя рады, фотасушка і фітагасцёўня. На скейт-пляцоўцы скейтары рыхтаваліся да спаборніцтваў. **Сяргей** і **Раман** у вілейскі скейт-парк прыехалі з Мінска разам яшчэ з трыма сябрамі-скейтарамі. Хлопцы – студэнты. Скейтам займаюцца некалькі гадоў.

**– Як вам горад, скейт-пляцоўка? – пытаюся ў гасцей.**

– Горад не бачылі яшчэ, а пляцоўка магла б быць і лепшай, хаця б большай па памерах, – адказвае Раман.

На маю фразу пра тое, што, можа, для невялічкай Вілейкі большай пляцоўкі не трэба, лагічна зазначае:

– Дык што, у невялікіх гарадах і поле футбольнае меншым рабіць?

А вось варкаўтары – аматары заняткаў спортам на вулічных пляцоўках – вілейскую спартыўную варкаўт-пляцоўку ўпадабалі. Хлопцы прыехалі на спаборніцтвы з Параф'янава. Кажуць, сучасную пляцоўку ў Вілейцы нават і не параўнаць з тымі жалезнымі турнікамі савецкіх часоў, на якіх трэніруюцца дома.

З куратаркай і арганізатарам фестывалю **Вольгай Шляпо** пашчасціла пагаварыць не адразу. Дастаўка банераў, шнуроў, барабанаў, забеспячэнне працы ўсіх пляцовак, безумоўна, вымагала ад Вольгі шмат часу і актыўнасці.

**– Ці задаволеныя вы пачаткам фестывалю, – пытаюся нарэшце. – Дождж не напалохаў?**

– Пакуль усім задаволена. Дождж хутка скончыўся. Моладзь весяліцца, неба пакуль высокае, – аптымістычна адказвае Вольга. – Але ж цяжка спрагназаваць далейшае надвор'е. У нас жа мерапрыемстваў да самага вечара. Таму не расслабляюся.

**– У якіх мерапрыемствах удзельнічаеце самі?**

– Увечары буду ўзнагароджваць пераможцаў і круціць агнямі на фаер-шоу, таму сукенку прынесла з сабой, – кажа Вольга, апранутая пакуль у зручныя джынсы і красоўкі.

**– Што адказаце злосным каментатарам на фразу кшталту "грошай няма, працы няма, дарогі дрэнныя, а яны тут фестываляць?"**

– Гэты фестываль горад не фінансуе. Усе, хто ўдзельнічае, – валанцёры. Адзінае, райвыканкам выдзеліў грошы на тры сертыфікаты па 30 рублёў для конкурсу сабачай моды.

Па словах арганізатараў, фестываль сабраў каля тысячы чалавек.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

## Маладзечанец, які адкрыў галерэю на сметніцы, паедзе ў навучальную паездку ў Бразілію

МАЛАДЗЕЧНА

**Завяршыўся другі сезон шоу "Горад".**

На працягу некалькіх месяцаў удзельнікі пад прыцэлам тэлекамер праходзілі розныя іспыты, прэзентавалі свае праекты па паляпшэнні гарадской прасторы, выконвалі дамашнія заданні, паступова пакідалі праект.

Напачатку ў шоу было 20 удзельнікаў з 13 населеных пунктаў, яны былі адабраныя больш чым з 200 прэтэндэнтаў.

Сярод праектаў былі такія, як добраўпарадкаванне двор альбо цэлы раён, стварыць пункт пераразмеркавання прадуктаў харчавання, арганізаваць перасоўны арт-цэнтр на аснове грузавіка, аднавіць храм і іншыя. Маладзечанец Базіната прапанаваў адкрыць галерэю на сметніцы.

**Нагадаем, што яна не праіснавала і сутак.**

Як тлумачылі маладзечанцы, што забіралі карціны дадому: "Не месца такой прыгажосці на сметніцы".

За права паехаць у Бразілію маглі спаборнічаць усе ўдзельнікі, якія паспелі рэалізаваць свае праекты. Іх аказалася чацвёра: **Аляксандр Аўдзевіч**, **Алена Майсюк**, **Базіната** і **Марат RGB**.

Алена Майсюк змагла з дапамогай мясцовых жыхароў, гарадскіх уладаў і камунальных службаў адкрыць зручную, прасторную пляцоўку для сабак.

Аляксандр Аўдзевіч стварыў першы ў краіне інклюзіўны пляж (пляж для людзей, якія абмежаваныя ў перасоўванні) на адным з берагоў Лідскага возера.

Марат RGB зрабіў арт-грузавік. Ён утрымлівае калекцыю з 20 работ сучасных беларускіх вулічных мастакоў, большасць з якіх стваралiся на вуліцах. Работы можна ўбачыць падчас руху грузавіка па вуліцах Мінска і не толькі.

Базіната адкрыў галерэю на сметніцы. Журы вырашыла, што ён больш за ўсіх дастойны пазнаёміцца з бразільскім урбанізмам, прымяніць гэты досвед на практыцы.

**Паводле прэс-рэліза шоу "Горад".**

НАВІНЫ СПОРТУ

### "Смаргонь" саступіла "Лакаматыву"

СМАРГОНЬ

ФК "Смаргонь" 1 ліпеня ў чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе гуляў у гасцях з "Лакаматывам" з Гомеля.

Смаргонцы прайгралі 0:1. Прычым адзіны гол у матчы забіў **Аляксандр Клешчанок**, які яшчэ ў мінулым сезоне выступаў за смаргонскую каманду. Вызначыўся ён на 19 хвіліне.

"Смаргонь" ў турнірнай табліцы займае толькі 14-е месца. Наступны матч смаргонцы зноў правядуць дома. Гэта будзе матч 1/16 Кубка Беларусі супраць брэсцкага "Дынама"

### "Ашмяны" забіваюць 12 галоў

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

У 11-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Чысць" 1 ліпеня у гасцях гуляла з "Любанню". Перамогу чысцінцы атрымалі валявую: з лікам 4:3. Галы ў "Чысці" забівалі **Дзяніс Казючыц** і **Аляксандр Працкевіч**, а перамогу двума галамі ў канцы матча прынёс **Вячаслаў Грынцэвіч**.

"Маладзечна ДЮСШ-4" у гасцях з лікам 4:1 перайграла "СМІаўтатранс" са Смалявіцкага раёна. Галы ў маладзечанцаў на рахунку **Дзмітрыя Касцюка**, **Ігара Талькоўскага**, **Сяргея Галюка** і **Антона Талстога**.

"Ашмяны" сустракаліся дома з "ФК СДЮШАР №8" з Гомеля. І пакуражыліся на славу, столькі галоў і ў хакейным матчы рэдка ўбачыш. Ашмянцы забілі ў вароты гасцей 12 галоў, а тыя – ніводнага. Пяць галоў забіў **Дзмітры Купнеўскі**, па два – **Вадзім Міхалевіч** і **Дзяніс Сімончык**, па адным – **Януш Ладуцька**, **Уладзіслаў Давідовіч** і **Антон Андрэеў**.

"Чысць" займае трэцяе месца з 23 ачкамі, "Маладзечна ДЮСШ-4" – чацвертае. На рахунку каманды 21 ачко. У "Ашмянаў" 10 месца і 11 ачкоў. Дзеля справядлівасці заўважым, што, пачынала чэмпіянат каманда з мінус пяццю ачкамі.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Відэлец" – самая папулярная шахматная тактыка

**І зноў вітаю! Анекдот на гэту тэму. Званок на фірму:**

– Добры дзень, я хачу ў вас зрабіць заказ!

– Добры дзень!

– Але грошай пакуль у мяне няма ...

– Да пабачэння!

– Пачакайце, пачакайце! У мяне муж – гросмайстар. Ён толькі што выйграў вялікі шахматны турнір і едзе з вялізнымі прызавымі дадому!

– І зноў вітаю!

Пасля Бобі Фішэра шахматы вельмі моцна камерцыялізаваліся. Ёсць у гэтым і мінусы, і плюсы. На Захадзе праходзіць велізарная колькасць турніраў з прызавымі, кожная французская і нямецкая вёска лічыць сваім абавязкам хоць раз у год правесці прэстыжны шахматны турнір. Нештa тыпу Нью-Васюкі. Па гэтых турнірчыках снуюць майстры і гросмайстры, перамагаюць аматараў і зарабляюць на гэтым грошыкі.

**Шахматы у сусветным маштабе – рускі від спорту.**

Калі, напрыклад, паўстае пытанне, каго браць у трэнеры па футболе, то адказы два – бразіла або немца. Калі такое пытанне паўстае пры выбары трэнера па шахматах, то ў сусветным маштабе адказ таксама відавочны – руская. З падзеннем Савецкага Саюза значэнне шахмат на постсавецкай прасторы ўпала. Можна сказаць, што і цяперашні герой-чэмпіён – нарвежац **Магнус Карлсан**. Але гэта толькі павярхоўны погляд.

Яшчэ адзін шахматны анекдот з 90-х, на піку папулярнасці шахмат ў свеце. Сустракаюцца два немцы-шахматысты.

– Ну, як справы? Як турнір? Якое месца заняў?

– Трэцяе ...

– Малайчына! А хто першыя два?

– Два аўтобусы з савецкімі шахматыстамі ...

Так, быў такі час.

А цяпер пра тактыку. Тактыка – гэта дробныя прыёмчыкі, якія дазваляюць выйграць шахматны матэрыял. Напэўна, шмат хто чуў такі шахматны тэрмін – "відэлец" ("вілка"). Больш навукова і правільна – двайны ўдар, мабыць, самы распаўсюджаны і зразумелы тактычны прыём. Сваім ходам вы нападаеце на дзве фігуры.

Глядзіце на ілюстрацыйную дыяграму:



1. Белы конь e7 сваім ходам паставіў відэлец адразу на тры чорныя постаці: ферзя c6, караля c8, ладдзю g8. Прычым конь дае шах, кароль адыходзіць, і конь выбірае узяцце паміж ферзем і ладдзёй.

2. Белая пешка d4 паставіла відэлец на чорную ладдзю c5 і каня e5. Адначасова дзве фігуры за адзін ход не могуць сысці, і адна з іх гіне.

3. Чорны слон c2 паставіў двайны ўдар на белую ладдзю b1 і каня e4.

Гэта ўсё ілюстрацыйныя прыклады двайнога ўдару, а па-народнаму – відэльца, – самага распаўсюджанага шахматнага тактычнага прыёму.

А цяпер крыху шахматнай арыфметыкі. У шахматах існуе адзінка вымярэння – долар ... жарт. Не долар, вядома, а пешка! У пешках мераюць і сілу, і каштоўнасць фігур. Гэта ўсё трохі ўмоўна, але ў большасці выпадкаў, асабліва на пачатковым узроўні, гэта працуе

Таму трэба вывучыць наступную табліцу на зубок.

**Пешка = 1 пешка.**
**Конь = 3 пешкі.**
**Слон = 3 пешкі.**
**Ладдзя = 5 пешак.**
**Ферзь = 9 пешак.**

Адгэтуль ужо выцякаюць розныя абменныя варыянты. Слон = каню, ладдзя = слон+2 пешкі, ферзь = ладдзя + слон + пешка і гэтак далей. Гэта ўсё ўлічваюць, узважваюць пры разменах.

Гуляйце ў шахматы – і ваша разуменне законаў жыцця стане глыбейшым, багацейшым і больш дальнабачным! Вучыцеся лічыць у жыцці далей, чым на адзін ход, а пакуль у шахматах на адзін... разам з маёй кніжкай-шахмацінкай "Мат у адзін ход".



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# У Астраўцы выбралі самага дужага асілка

АСТРАВЕЦ

**Спаборніцтвы па сілавым экстрыме "Астравецкі асілак-2017" прайшлі на гарадскім стадыёне 2 ліпеня.**



Выратавальнік Аляксандр Лабачэўскі атрымаў званне "Астравецкі асілак-2017".

Удзельнікам трэба было прайсці пяць этапаў. Спачатку "Фермерская прагулка" – перадолець дыстанцыю з двума снарадамі вагой па 55 кілаграмаў кожны. Затым у этапе "Кантоўка кола" ўдзельнікі павінны былі пракаціць на аднолькавую адлегласць кола вагой больш за 100 кілаграмаў. У этапе "Качыная прагулка" асілкі мусілі пранесці снарад вагой 85 кілаграмаў.

Пасля іх чакала спаборніцтва "Бурлак". Мужчынам давалася 90 секунд на перацягванне аўтамабіля. Суддзі пасля вымяралі, хто на большую адлегласць прыцягнуў аўто да сябе.

Заключным этапам стала "Станавая цяга", у якой спартсмены падымалі штангу з коламі агульнай вагой 115 кілаграмаў. Больш за ўсіх падняў Цэзарый Пятроўскі – 17 разоў.

На такія спаборніцтвы адважыліся дзесяць удзельнікаў. Сярод іх былі не толькі астраўчане, але і жыхары Ашмянаў, Гомеля, а таксама госць з Польшчы.

"Астравецкім асілкам-2017" стаў **Аляксандр Лабачэўскі**. Малады чалавек прадстаўляў райаддзел надзвычайных сітуацый, ён працуе выратавальнікам на аб'ектах АЭС, жыве ў Астравецкім раёне. Пераможца атрымаў каштоўны прыз.

Другое месца заняў **Павел Афонін**, які прадстаўляў Астравецкі лясгас. Бронза дасталася госцю з Польшчы **Цэзарыю Пятроўскаму**.

Як распавяла інструктар-метадыст фізкультурна-спартыўнага клуба **Людміла Трусевіч**, "Астравецкі асілак" сёлета правялі другі раз. Хаця сёлета крыху не пашанцавала з надвор'ем, але спартыўнае свята вельмі спадабалася як удзельнікам, так і гледачам. Таму яго плануюць зрабіць штогадовым.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Больш фота на сайце rh.by.**

## Маладзечанскія футбалісты: "Няхай "Крумкачы" хвалююцца"

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 8 ліпеня, у 18:15 на гарадскім стадыёне адбудзецца матч 1/16 Кубку Беларусі. Да маладзечанцаў едзе каманда вышэйшай лігі "Крумкачы".**

І каманда, і трэнеры па-рознаму ставяцца да будучага матча, але ўсе згодныя ў адным – каманду "Крумкачы" можна і трэба перамагаць.

**Юры Бугай**, абаронца каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4", расказаў:

– Кубак Беларусі – гэта шанец праявіць сябе! Усё роўна, у якім клубе і лізе ты гуляеш, тут даецца шанец перамагчы кожнаму, як той казаў – гэта самы кароткі шлях у Еўропу. Ды і ФК "Маладзечна" таксама даўно не гуляў супраць "вышкі", думаю для горада і мяне асабіста гэта крок наперад і сапраўды знакавая падзея!

**– Калі б перад табой стаяў выбар – прайсці ў Кубку, напрыклад, да паўфіналу або трапіць у тройку прызёраў другой лігі, што б ты выбраў?**

– Калі б перада мной стаяў такі выбар, то я ўсё адно імкнуўся б дамагчыся максімальнага выніку і ў Кубку, і ў чэмпіянаце. Ну, а калі разважаць з пункту гледжання карысці для клуба – хацеў бы трапіць у двойку ў другой лізе, бо гэта павышэнне ў класе.

**– Да нас едзе каманда вышэйшай лігі. Гэта выклікае нейкае хваляванне?**

– Няхай "Крумкачы" хвалююцца.

**– Ці ўдалы, на твой погляд, нам дастаўся сапернік?**

– Я асабіста хацеў бы з БАТЭ ці "Дынама-Брэст" згуляць, ну нічога, сустрэнемся з імі ў 1/8, з'ездзім на "Барысаў-Арэну". Ну, а калі казаць сур'ёзна – у вышэйшай лізе слабых камандаў апрыёры няма, кожны можа выйграць у кожнага, таму асаблівай розніцы няма, з кім гуляць.

**– Супраць "Крумкачоў" табе даводзілася гуляць двойчы ў 2014. Што можаш ўспомніць з тых часоў?**

– Гульні супраць "Крумкачоў" былі, як гаворыцца, без цэнтра поля, цікавыя для гледачоў, асабліва дамашні матч. Яшчэ тады "Крумкачы" паказалі сябе добра арганізаванай камандай, з досыць нядрэннымі выканаўцамі.

**– Шлях "Крумкачоў" наверх за два гады, як ты ставішся да яго?**

– Тут можна сказаць толькі адно – малайцы! Прыклад для іншых.

**– Як увогуле ставішся да прыватных камандаў, у якіх, амбіцый і жадання, за спінай няма нічога?**

– Да іх стаўлюся нейтральна, але, на жаль, такія каманды звычайна доўга не існуюць. З часам зацікаўленыя людзі сыходзяць, і клуб без інфраструктуры знікае. Такіх прыкладаў у чэмпіянаце Беларусі дастаткова.

**– Чаго чакаеш на гульні ад гледачоў?**

– Гледачы заўсёды жадаюць атрымаць задавальненне ад гульні. А нам, у сваю чаргу, хочацца атрымаць велізарную падтрымку, каб наш заўзятар апынуўся сапраўдным дванаццатым гульцом. Але ўвогуле не сумняваюся, што будзе аншлаг – наш глядач, разам з фанацкім сектарам, – самы лепшы ў Беларусі! Дзякуй усім за падтрымку!

**Наталля ТУР паводле by.tribuna.com.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Знак узнагароды розных ступеняў і назваў за ваенныя або грамадзянскія заслугі.
2. Прачытаўшы "Алісу ў краіне цудаў", каралева Англіі прыйшла ў захапленне і патрабавала, каб ёй даставілі іншыя творы Кэрала. Аднак яна была расчараваная, калі ўбачыла, што іншыя творы прысвечаныя гэтаму.
6. Берагчы каго-небудзь, шкадаваць.
7. Супрацоўнік "асобага аддзела" Камітэта дзяржбяспекі СССР.
13. Найбольш вузкая частка тулава паміж грудзьмі і клубамі.
15. Шаўковая тканіна з кароткім густым ворсам.
17. Падношанае, пашарпанае адзенне, абутак.
18. Кітайская парода сабак, адна з самых старажытных. У 1978 годзе занесеная ў Кнігу рэкордаў Гінеса як самая рэдкая ў свеце. Кітайскія камуністы пасля прыходу да ўлады палічылі іх раскошай і наклалі на гаспадароў неверагодна вялікія падаткі, а пасля іх пачалі масава знішчаць. Іх засталіся адзінкі, але пасля вывазу ў ЗША некалькіх пароду пачалі адраджаць.
19. Касмічная гравітацыйна-звязаная сістэма, назва якой паходзіць ад старажытнагрэчаскага слова "малако".
22. Лінія на карце, якая злучае месцы з аднолькавым атмасферным ціскам у пэўны час.
24. Вадзіцель машыны, які з-за самахвальства грэбуе правіламі бяспекі язды.
25. Горад з такой назвай існуе на кожным кантыненце, акрамя Антарктыды.
26. Па-грэчаску гэта значыць "адзінокі".
27. У 1923 годзе "Нью-Ёрк таймс" пісала: "Існуе чалавечы мозг, які мае вялікую каштоўнасць, у дзелавым і прамысловым свеце яго ацэньваюць у 15 мільярдаў долараў". Назавіце прозвішча ўладальніка гэтага мозга.
29. Статак коней, а таксама аленяў і некаторых іншых капытных жывёл, якія пасуцца разам.
30. Гэты хімічны элемент знайшлі спачатку на Сонцы, пасля на Зямлі.
36. Вострая частка прылады, якая рэжа ці сячэ.
37. Якім музычным інструментам назваў свой першы зборнік вершаў беларускі паэт, пахаваны каля касцёла ў Жупранах Ашмянскага раёна.
39. Кучаравая ці завітая пасма валасоў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Сцэнічная роля прастадушнай, наіўнай дзяўчыны.
4. Імі займаўся гулец "Маладзечна-ДЮСШ-4" Сяргей Лавор да таго, як трапіў у футбол.
5. Металічная рамка для патронаў, якая ўстаўляецца ў магазінную каробку агнястрэльнай зброі.
8. Навучанне, асвета.
9. Першая прафесія Ніла Гілевіча.
10. Лясная птушка з доўгай моцнай дзюбай, якая здабывае ежу ў кары дрэў.
11. На іспанскіх картах Паўночнай Амерыкі 16 стагоддзя некаторыя тэрыторыі называлі "непатрэбныя землі". Чаго там не было?
12. Прамая, якая праходзіць праз вяршыню вугла і дзеліць яго папалам.
14. Імя першай лялькі, якую змайстравала актрыса Мінскага абласнога драмтэатра Таццяна Карпец.
16. Вёска ў Смаргонскім раёне, у якой размяшчалася сядзіба Шафнаглей.
20. Рэчыва, з якога робяць асноўны складнік шкла.
21. Разгон, парывістасць, імклівасць.
22. Грашовая адзінка Японіі.
23. Перавышэнне расходаў над даходамі.
26. Па-нямецку гэта гучыць як "вярстак", а па-лацінску – "фабрыка".
28. У гонар гэтага савецкага дзеяча раней ў Рызе называлася цяперашняя вуліца Брывібас.
31. Афіцыйнае інспектаванне войскаў камандаваннем на парадзе.
32. Даўно не аранае поле, звычайна пакрытае дзірваном, травой.
33. Уладзімір Дубоўка: "О Беларусь, мая ..., зялёны ліст, чырвоны цвет!"
34. Самае глыбокае возера на планеце.
35. Мінерал, разнавіднасць агату, у якім чаргуюцца слаі чорнай і белай афарбоўкі.
38. Колер, які мела б кока-кола, калі б у яе не дадавалі фарбавальнік.
40. Аладка, блін з дранай бульбы.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Слава. 2. Мульцісусвет. 4. Чылі. 5. Дзюба. 7. Дабранач. 8. Катлета. 9. Акно. 11. Кола. 13. Кампазітары. 14. Бухарэст. 16. Скронь. 18. Слову. 20. Скнара. 21. Герантакратыя. 22. Уліс. 25. Рынак. 27. Егіпет. 28. Марсельеза. 30. Шынок. 31. Дагавор. 33. Ашмянскі. 36. Хваля. 37. Хімера.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Гасцініца. 6. Шчупак. 7. Дэфолт. 10. Габарыт. 11. Кветка. 12. Консул. 15. Ніксан. 17. Травесці. 19. Шэры. 21. Габы. 23. Італія. 24. Кафэ. 26. Кант. 29. Каралі. 30. Шэпт. 31. Дэтэктыў. 32. Генафонд. 34. Манэ. 35. Саванец. 38. Данія.

## ГАРАСКОП 7-13 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Вам трэба перш за ўсё разабрацца ў сабе і ў сваіх пачуццях, а ўжо потым спрабаваць улазіць у чужое жыццё і даваць парады. Займіцеся домам, вырашайце сямейныя праблемы – вам неабходна проста ўдзяліць час сваёй сям'і, і ўсё пойдзе на лад.



**ЦЯЛЕЦ.** Вашы эмацыйнасць і пачуццёвасць могуць падвесці вас. Цяпер вы ранімыя, і, на жаль, у такія моманты слабасці заўсёды знойдзецца хтосьці, хто зможа сапсаваць настрой яшчэ больш. Для захавання свайго ўнутранага свету ў цэласнасці вам неабходна выстраіць магутную ахоўную сцяну, ці сысці ў сябе. Праявіце мудрасць – успрымайце ўсе падзеі, як урокі жыцця, якія неабходна вывучыць і выкарыстоўваць у далейшым.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы зможаце праявіць сябе з самага лепшага боку і, самае галоўнае, з выгадай для сябе. Поспех вашых пачынанняў прадвызначаны, але працаваць прыйдзецца вам самім, нельга кідаць справы на самацёк.



**РАК.** Дні творчыя. Калі вы запланавалі падарожжа, то яно будзе багатае на ўражанні і падзеі. Фартуна будзе вам усміхацца.



**ЛЕЎ.** У ваша жыццё ідуць перамены, і яны могуць досыць моцна паўплываць на ўсё ваша жыццё абсалютна ў любой яго сферы. Для кагосьці гэтыя змены будуць станоўчымі, а для кагосьці не вельмі, усё залежыць ад таго, як вы вялі сябе да гэтага, што заслужылі. Можна назваць гэты перыяд жыцця адплатай за грахі і ўзнагародай за заслугі, гледзячы чаго ў вас было больш. Калі на гэтых днях вам падвернецца якая-небудзь справа, якая абяцае поспех і выгаду, але звязаная з чымсьці не зусім сумленным, то лепш ад яе адмовіцца – нічога добрага ўсё роўна не выйдзе.



**ДЗЕВА.** Вам захочацца сустрэцца з сябрамі. Але што перашкаджае – узялі тэлефон ды і званіце, прызначайце сустрэчу. Добры час для планавання свайго жыцця на аддаленую перспектыву. Цяпер вы здольныя цвяроза ацаніць сябе і свае магчымасці, таму вашы планы будуць рэалістычнымі.



**ШАЛІ.** Сачыце за сваім эмацыйным станам – цяпер вы больш, чым звычайна, схільныя да раздражнёнасці, часцей сярдуеце, калі не ўсё ідзе так, як хацелася б. Не перажывайце, цяпер могуць адкрывацца новыя абставіны, якія паўплываюць на вашы рашэнні, погляды і ўчынкі. Трохі пазней стане бачна, што ўсё склалася найлепшым чынам, пакуль жа трэба проста не здавацца і не спяшацца з высновамі. Не бойцеся новага – цяпер зоркі на вашым баку.



**СКАРПІЁН.** Справы могуць пайсці не зусім так, як чакалі, а нават лепш. Туманныя перспектывы праясняцца. Будзьце ўпэўненыя ў сваіх дзеяннях. У вас усё атрымаецца. Не эканомце час на сон і адпачынак. Пры планаванні будучыні, пакіньце ў рэзерве яшчэ некалькі варыянтаў, каб раптоўныя змены не змаглі застаць вас знянацку.



**СТРАЛЕЦ.** Важны для здароўя перыяд, калі трэба ўдзяліць увагу, нават калі нічога не хвалюе. Добры час для медыцынскага абследавання, прафілактыкі, лячэння хранічных захворванняў. Вельмі важна пазітыўныя адносіны да навакольнага свету і да сябе, тады шмат якія праблемы са здароўем будуць лёгка сыходзіць. Старайцеся пазбягаць канфліктаў, яны шкодзяць здароўю.



**КАЗЯРОГ.** Добры перыяд для таго, каб сканцэнтравацца на пытаннях дома і сям'і. Вы можаце заняцца рамонтам, зрабіць пакупкі для дома, якія абяцаюць быць удачнымі. Спрыяльны перыяд для падарожжаў, у тым ліку і ў далёкія краіны. Для тых, хто мае творчую майстэрню, можа раптам прыйсці натхненне.



**ВАДАЛЕЙ.** Філасофскае разуменне жыцця дазволіць вам дабіцца бліскучых вынікаў ва ўсіх сітуацыях. Вырашаючы свае праблемы, не забывайце пра інтарэсы блізкіх, бо калі яны ўвойдуць у супярэчнасць з вашымі, вам прыйдзецца сур'ёзна пашкадаваць аб тым, што зрабілі.



**РЫБЫ.** Вось і наступае час для пошукаў і перамен. Вы адчуеце прыліў сіл і энергіі. Тыя новыя ідэі, якія яшчэ вы не ўвасобілі ў жыццё, дачакаліся свайго часу. Шмат што будзе атрымоўвацца без вялікіх затрат. Пастарайцеся максімальна выкарыстаць гэты залаты для вас час.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 9 | | 4 | 7 | |
| | 1 | 2 | 5 | | 4 | | | |
| 9 | | | | | | 2 | | 1 |
| | 6 | 4 | | 8 | | | | |
| | | | 7 | | 6 | | | |
| | | | | 2 | | 1 | 6 | |
| 5 | | 3 | | | | | | 2 |
| | | | 6 | | 9 | 8 | 3 | |
| | 8 | 6 | | 1 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

8 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +13 | | +10 / +15 | | +12 / +15 | | +10 / +21 | |
| | 742 | ↓ 5 | 740 | ↘ 1 | 739 | ↓ 1 | 740 | ← 4 |
| Вільня | +7 / +17 | | +10 / +16 | | +10 / +15 | | +9 / +23 | |
| | 748 | ↓ 4 | 745 | ↗ 2 | 745 | ← 3 | 745 | ↗ 4 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.50
Захад 21.45
Даўжыня дня 16.55

Усход 20.54
Захад 4.27
Поўня




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +6,9 °С у 1993 годзе
Максімальная тэмпература +32,3 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,8 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Праца не для слабых на нервы – як з тушы жывёліны стварыць прыгожую кампазіцыю з пудзілам, распавядае таксадэрміст з Маладзечна.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

Бабуля – унучцы:
– Я ў тваім узросце ўжо працавала.
Унучка:
– А я ў тваім яшчэ буду працаваць.

***

Хлопчык намаляваў тату.
Тата:
– Прыгожы малюнак. А чаму ў мяне валасы жоўтыя?
Сын:
– Я не знайшоў лысую фарбу.

– Дзяўчаты, хто-небудзь сустракаўся з мужчынам, які нашмат старэйшы. Што можаце параіць?
– У іх пенсія пасля дзясятага.

***

Дзяўчынку першы раз прывялі ў дзіцячы садок.
Выхавальніца:
– Як цябе завуць, прыгажуня?
– Можна проста Сцяпанаўна.

***

– Я прапаноўваю вам руку і сэрца?
– І гэта ўсё?

***

– У цябе ёсць чацвераногі сябар?
– Ёсць.
– А якая ў яго мянушка?
– Канапа.



## Новыя банкаўскія рэквізіты "РГ"

Разліковы рахунак (IBAN): **BY06BELB30121640300040226000**
Банкаўскі ідэнтыфікацыйны код (BIC SWIFT): **BELBBY2X**

Просім нашых партнёраў улічваць гэта ва ўзаемных стасунках, а таксама паведаміць нам пра свае новыя рэквізіты, калі гэтага вы яшчэ не зрабілі. Нашы кантакты: **reklama@rh.by, факсе 8-0176-537804** або даслаўшы ліст на адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518.**

**ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці аддалі б вы сваё дзіця ў беларускамоўны клас?



**Часлава Сідарэвіч, загадчыца дзіцячага садка, Астравец:**
– У мяне трое дзяцей. Двое ўжо скончылі беларускамоўныя класы. А малодшы яшчэ вучыцца ў ім. Калі мой сярэдні сын збіраўся ў першы клас, большасць бацькоў былі за рускую мову навучання. Але я так катэгарычна запэўніла ўсіх, што прапанову знялі з галасавання. Трэба ведаць мову краіны, дзе ты жывеш.



**Таццяна Буслаўская, настаўніца, Вілейка:**
– Аддала б. Іншыя варыянты нават у галаву не прыходзяць. Таму што дзіця, якое нарадзілася ў Беларусі, павінна вучыцца па-беларуску.



**Вікторыя Іванец, работнік культуры, Вілейка:**
– Я не бачу ніякай розніцы ў тым, беларуская мова ці руская. Якасць адукацыі залежыць зусім не ад мовы.



**Дзмітры Калеснікаў, менеджар праектаў, Маладзечна:**
– Я за тое, каб беларускай мовы ў школе было не менш, чым замежнай. Ну, і гісторыя Беларусі толькі па-беларуску павінна выкладацца. А вось матэматыку, фізіку, хімію лепш пакінуць на рускай мове.



**Валянціна Ліштван, работнік культуры, Ашмяны:**
– Аддала б. Я ўвогуле змагаюся за тое, каб беларуская мова не была іншаземнай для нас. Калі мой старэйшы сын ішоў у школу, я аддала яго ў беларускамоўны клас. Але затым гэты клас ліквідавалі.



**Алена Крэйніс, гаспадыня, Валожын:**
– У нашай сям'і ёсць такі досвед. Маю пляменніцу аддалі ў беларускамоўны клас у Мінску. Але ўсё скончылася на этапе пачатковай школы. Каб вучыць дзяцей далей, не было кадраў. У беларускамоўных класах не бачу нічога дрэннага. Але пытанне: што далей? Беларуская мова павінна быць ў ліцэях, універсітэтах, гімназіях. Тады і пытанняў не будзе.



**Мікалай Філіпенка, ахоўнік, Маладзечна:**
– Не. Дома мы размаўляем па-руску. Жонка мая з Расіі. Таму дзеці лепш па-руску разумеюць. Хаця добра паспяваюць і па прадмеце "беларуская мова".

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№27 (1158) 7.07.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 636. Падпісана ў друк у 9.00 6.07.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.